



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

17 ЛІСТАПАДА 2000г. № 46/4078 КОШТ 105 РУБ.




## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Аформіць падпіску на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2001 года можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **600** рублёў, на тры — **1 800**, на паўгода — **3 600**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 560** рублёў, на тры — **4 680**, на паўгода — **9 360**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Восеньскі ліхтар.*

*Фота Г. ЖЫНКОВА.*



## КОЛА ДЗЁН

***На дварэ другая палова лістапада. Не за гарамі і Новы год. Звычайна ў такую пару ў нас ужо маразы і снегавеі. Сёлета ж пакуль цёпла. Часам, нават, ловім сябе на думцы, што зіма даўно прайшла. Ды не! Яшчэ будзе ўсяго, таму цяпер варта і на прыроду выехаць — пазбіраць у лесе грыбоў, пасядзець каля вогнішча, падумаць над сваім жыццём-быццём. Нехта скажа, а што тут думаць, калі і так усё бачна, як мы жывём і адкуль і куды ідзём... А ў Амерыцы ўжо трэці тыдзень ніяк не могуць палічыць галасы і вызначыць, каго амерыканскі народ абраў новым прэзідэнтам...***

### ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Відаць, усё-ткі ў нашай краіне ёсць людзі, якія не ведаюць і не вераць, ці не хочуць ведаць і верыць, што самыя бедныя ў нас — гэта работнікі культуры. І каб было інačай, то ці прайшла б у мінулую суботу ў вялікай зале Палаца культуры ААТ "Сукно" акцыя-канцэрт "Інтэлігенцыя Беларусі — гарантыя прагрэсу і дастойнага жыцця народа", арганізаваная Мінскай абласной арганізацыяй прафсаюза работнікаў культуры? Скардзіцца на гаротнае жыццё прыйшло шмат вядомых і не надта вядомых дзеячаў культуры. Гаварылі пра набалелае, не спадзеючыся, што іх пачуюць там, дзе патрэбна. І ўсё ж, відаць, акцыя-канцэрт была пачута не толькі сценамі Палаца культуры ААТ "Сукно", бо прэзідэнт Беларусі даручыў ураду да канца гэтага года павысіць зарплаты работнікам бюджэтнай сферы. Гэтае ўказанне кіраўнік дзяржавы аддаў прэм'ер-міністру краіны Уладзіміру Ярмошыну ў ходзе сустрэчы, якая адбылася ў панядзелак. У першую чаргу мяркуецца павялічыць зарплату ўрачам, настаўнікам, а таксама некаторым катэгорыям работнікаў культуры.

### ДЭМАГРАФІЯ ТЫДНЯ

Ужо не першы раз гаварылася і гаворыцца, што насельніцтва нашай краіны паступова і няўхільна змяншаецца. З 1990 па 1999 год узровень нараджальнасці ў Беларусі знізіўся прыкладна на 30 працэнтаў. Як вынік, нават нягледзячы на станоўчае сальда міграцыі, у 1994—1999 гадах агульная колькасць насельніцтва краіны зменшылася на 274 тысячы чалавек. Па разліках навукоўцаў, калі падобныя дэмаграфічныя працэсы будуць працягвацца і далей, то ўжо праз 40 гадоў у сельскай мясцовасці практычна не застанецца працаздольных людзей, бо ўжо зараз сярэдні ўзрост вяскоўцаў набліжаецца да 45 гадоў. "Што рабіць?" — само па сабе ўзнікае пытанне. У кожнага на яго свой адказ. Але...

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Многія жыхары нашай краіны скардзяцца, што яны з кожным месяцам бяднеюць. Тым не менш, Міністэрства статыстыкі і аналізу паведаміла — грашовыя даходы насельніцтва ў студзені — жніўні гэтага года склалі 3288,5 мільярда рублёў і павялічыліся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 3,5 раза. На душу насельніцтва грашовыя даходы за 8 месяцаў склалі 327,7 тысячы рублёў. У верасні роўна адзін мінімальны спажывецкі бюджэт (54629 рублёў) атрымалі работнікі гандлю і грамадскага харчавання. Ужо традыцыйна самую вялікую зарплату атрымліваюць работнікі банкаў — 121 тыс. руб. і страхавання — 128,3 тыс. рублёў, а самыя нізкія зарплаты — работнікі адукацыі (44 тыс. руб.) і мастацтва (39,4 тыс. руб.). І што ўжо тут казаць...

### "КРУГЛЫ СТОЛ" ТЫДНЯ

У грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы прайшоў "круглы стол", на якім былі абмеркаваны праблемы насычэння беларускага рынку якаснымі і даступнымі медпрэпаратамі. На сённяшні дзень суб'ектам гаспадарання выдадзена 21 ліцэнзія на права вытворчасці лекаў. Самым буйным вытворцам фармацэўтычных сродкаў з'яўляецца Беларускі дзяржаўны канцэрн "Белбіяфарм". Толькі на працягу трох кварталаў гэтага года былі асвоены тэхналогіі атрымання 13 новых відаў прадукцыі фармацэўтычнага прызначэння. А ўсяго канцэрн "Белбіяфарм" асвоіў ужо 394 найменні лекавых сродкаў. Лічбы немалыя, але як не было айчынных і танных лекаў у аптэках, так і няма. Словам, лепей не хварэць...

### АКЦЫЯ ТЫДНЯ

На катку сталічнага парку імя Горкага прайшла акцыя "Моладзь — за здаровы лад жыцця", у якой прыняў удзел і прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Акрамя выступлення перад мікрафонам, прэзідэнт у сваёй традыцыйнай хакейнай майцы пад нумарам 1 выйшаў на лядовую пляцоўку і згуляў за зборную ветэранаў Беларусі ў матчы супраць хакейных ветэранаў Аўстрыі. Нашы перамаглі з лікам 13:6. На рахунку Аляксандра Лукашэнкі тры забітыя шайбы і тры выніковыя перадачы. Няслаба...

### УЗНАГАРОДА ТЫДНЯ

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, галоўны рэдактар выдання "Кантакты і дыялогі", прафесар, вядомы наш навуковец і пісьменнік, прэзідэнт грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" Адам Мальдзіс Амерыканскім біяграфічным інстытутам узнагароджаны Ганаровым Медалём Гонару. Гэта ўзнагарода прысуджаецца інстытутам выдатнейшым людзям свету. Віншуем Адама Іосіфавіча!

### ЗАДУМА ТЫДНЯ

Здавалася б, з адыходам у гісторыю Савецкага Саюза адышлі і яго савецкія рэаліі. Ды не! Мінскі аблвыканкам вырашыў выступіць заснавальнікам пастаянна дзеючай грашова-рэчавай латарэі. Латарэя будзе праводзіцца ў перыяд з 15 кастрычніка 20%0 года па 15 кастрычніка 2005 асобнымі выпускамі. Правілы правядзення — традыцыйныя і добра вядомыя старэйшаму пакаленню. Мэта правядзення латарэі — атрымаць дадатковыя сродкі для фінансавання сацыяльных праграм, якія ажыццяўляюцца на тэрыторыі Мінскай вобласці. Задума добрая, але варта памятаць, што мы даўно жывём не пры савецкай уладзе...

### СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

9 лістапада ў Пасольстве Беларусі ў ФРГ адбылася сустрэча супрацоўнікаў беларускага дыпламатычнага прадстаўніцтва і членаў іх сем'яў з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым. Нагодай сустрэчы стала ўручэнне В. Быкаву нацыянальнага пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. У некага адразу ўзнікне пытанне: "А што, Васіль Быкаў да гэтага часу жыў без пашпарта?" Ды не, проста ў пісьменніка закончыўся тэрмін дзеяння замежнага пашпарта савецкага ўзору, а творчая камандзіроўка Васіля Быкава ў ФРГ закончыцца недзе праз год. У час уручэння нацыянальнага пашпарта Васіль Уладзіміравіч падзяліўся з прысутнымі творчымі планамі, прачытаў некалькі сваіх новых твораў.

### АБРАБАВАННЕ ТЫДНЯ

У нашай краіне злодзеі крадуць не толькі бульбу і капусту з калгасных палеткаў, але і карціны з мастацкіх галерэй. Так, у ноч з 8 на 9 лістапада ў Баранавічах невядомыя абрабавалі мясцовую галерэю, папярэдне перапілаваўшы краты ў акне. Засталася адна карціна і то таму, што не пралезла ў акно. Хто абрабаваў мясцовых мастакоў — невядома. Але і ці стане вядома?

# Прыехалі літоўцы па вопыт



Стварэнне нацыянальных энцыклапедый — справа і складаная і адказная адначасова. Яна патрабуе высокакваліфікаванай калектыўнай працы інтэлектуалаў. І тут выключная роля належыць вопыту. І не толькі свайму.

У мінулыя часы энцыклапедысты былога саюза амаль штогод збіраліся на сумесныя семінары. З распадам СССР творчыя сувязі перарваліся, а ў некаторых дзяржавах нават перасталі існаваць такога роду выдавецтвы.

І вось добрая адзнака: у Мінску адбылася сумесная нарада навукова-рэдакцыйных Саветаў беларускіх і літоўскіх энцыклапедыстаў.

Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" выжыла ў нялёгкіх умовах, за апошні час падарыла чытачам багата выдатных грунтоўных кніг, сярод якіх 10 тамоў універсальнай 18-томнай энцыклапедыі, 5 тамоў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі.

Нашы энцыклапедысты дзяліліся з літоўскімі гасцямі багатым творчым вопытам. Навукова-даследчы энцыклапедычны інстытут Літвы, які застаўся ад былога выдавецтва, цяпер спакваля становіцца на ногі і па прыкладзе беларусаў пачынае працу над нацыянальнай энцыклапедыяй. Вопыт беларусаў для суседзяў найбольш прымальны — мяркуюць дырэктар гэтага інстытута Літвы Рымантас Карэцкас і галоўны рэдактар "Беларускай энцыклапедыі" Генадзь Пашкоў, — тым больш што на гістарычным шляху нашых народаў ёсць нямала агульных старонак. А таму і заключана дамова аб узаемасупрацоўніцтве беларускіх і літоўскіх энцыклапедыстаў, што прынясе, безумоўна, творчы плён і навуковыя набыткі ў напісанні гісторыі суседніх народаў.

**Н. К.**

*Фота А. ДРЫБАСА*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Няўхільна рушыць да завяршэння яшчэ адзін год, год 2000. СБП, у тым ліку і абласныя яго аддзяленні, падсумоўваюць зробленае, клапоцяцца пра дзень заўтрашні. У 2001 годзе плануецца правесці Купальскае свята паэзіі ў Вязынцы, свята, прысвечанае Максіму Багдановічу ў Ракуцёўшчыне, традыцыйныя "Каласавіны" на радзіме Якуба Коласа, наладзіць літаратурныя чытанні, прысвечаныя юбілеям Івана Мележа, Цёткі, Элізы Ажэшкі. Насычаная будзе праграма правядзення вечарын у Вялікай зале Доме літаратара, а таксама літаратурных урокаў і сустрэч з прыхільнікамі прыгожага пісьменства ў бібліятэцы СБП. Шэраг мерапрыемстваў плануецца правесці ў Нацыянальнай бібліятэцы, а таксама ў дзіцячых бібліятэках Мінска. Належная ўвага аддаецца таксама маладым літаратарам.

Абласныя аддзяленні мяркуюць правесці ў наступным годзе багата літаратурных конкурсаў, канферэнцый, сустрэч з чытачамі, выязных пасяджэнняў у раённых цэнтрах. Прадугледжана шырокае святкаванне юбілеяў славутых землякоў, аднаўленне і ўмацаванне творчых сувязей з літаратарамі замежжа, правядзенне семінараў маладых аўтараў, творчая вучоба, цесныя кантакты з бібліятэкарамі, настаўнікамі, усімі аматарамі беларускай кнігі. Абласныя аддзяленні таксама шукаюць магчымасцей для выдання твораў аўтараў-землякоў, правядзення прэзентацый, пасяджэнняў літаратурных аб'яднанняў, сумесных перадач з радыё і тэлебачаннем, прысвечаных дзейнасці мясцовых літаратараў. Праводзіцца таксама вялікая работа па ўшанаванні памяці памерлых членаў Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**М. Р.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Цесна "Шлягеру" ў залатой клетцы...

***Пад свае традыцыйныя пазыўныя — вясновы матыў "Ландышаў" — памахаў восеньскім кляновым лістом, таксама традыцыйным фестывальным сімвалам, "Залаты Шлягер"-2000. Памахаў на развітанне адыходзячаму стагоддзю і — з дружалюбным прывітаннем стагоддзю наступнаму.***

Канцэрты шостага міжнароднага песеннага свята адбываліся ўжо ў двух магілёўскіх палацах: "Хімвалакно" і новым лядовым, прайшлі ў раённых цэнтрах вобласці, дасягнулі нават сталічнай залы "Мінск". Сёлетні "Залаты Шлягер" набыў статус фестывалю СНД, а значыць — большы размах. Паведамлялася, што і журналісцкі ён сабраў рэкордную за ўсе шэсць гадоў колькасць. Праўда, на праграмах даступных для нас тэлеканалаў Расіі гэта чамусьці не адбілася. Балазе, шчыравала Беларускае тэлебачанне, забяспечыўшы самай масавай аўдыторыі рознабаковае ўяўленне пра падзеі фестывалю, пра яго ўдзельнікаў, пра закуліснную атмасферу. Штовечар у праграму БТ уключаліся магілёўскія імпрэзы, рэгулярна выходзілі ў эфір тэлевізійныя дзённікі, радыёрэпартажы...

Словам, ніякай новай інфармацыі зараз ужо не дадасі. Ну, а ўражанні, ацэнкі, акцэнты, пачуцці? Гэта, вядома, — не факты. Яны, як і мае быць, суб'ектыўныя, у кожнага свае. Для кагосьці "Залаты Шлягер" — экскурс у маладосць, для кагосьці — напамін пра савецкае мінулае, для кагосьці — адна са знакавых рэалій сённяшняга, "пераходнага" ладу жыцця, для кагосьці — перспектыўны праект шоу-бізнесу, для кагосьці — лёгкае і радаснае відовішча...

У кожным разе, хто глядзеў — той успамінае... Сівагаловага і зухаватага міністра культуры Азербайджана П. Бюль-Бюль-аглы з заліхвацкай песні з падтанцоўкамі. "Сяброўскую" ўсмешку А. Ярмоленкі. Кранальны дуэт Н. Багуслаўскай ды І. Капланава. Юную Алешку з першай песняй В. Раінчыка. Абноўленых "Песняроў" з незаменным У. Мулявіным... На доўгія дзесяцігоддзі "выкрасленых з памяці савецкіх людзей" эмігрантаў А. Вядзішчаву, Ж. Татляна. Маладжавую "спартсменку, камсамолку, прыгажуню", а цяпер яшчэ і паэтэсу Н. Варлей. Арфея, Эўрыдыку ды кампазітара А. Журбіна...

"Залаты Шлягер" прымаў легендарных Л. Гурчанку, Л. Галубкіну, А. Анофрыева. Даў магчымасць "у масавым маштабе" падзівіцца на прыгажуна Т. Кутуньё, на "дзядулю" Д. Мар'янавіча, на заваёўніка жаночых сэрцаў малдаўскага "цыгана" М. Валанціра ды ягоную зямлячку С. Ратару. Пачуць у "Рамансіядзе" ўсё яшчэ малады тэнар В. Нарэйкі ды магутны, пастаўны барытон С. Захарава. На канцэрце "Праз 20 гадоў" сустрэцца з папулярнымі ў свае часы ВІА...

Каб жыць і "раскручвацца", гэты фестываль мусіў рассунуць колішнюю "залатую рамку", ці клетку з колішніх "залатых" песень савецкай эпохі. Сёлета ўжо не было публічнагучных настальгічных уздыхаў па "страчанай вялікай краіне". Гэта падалося б недарэчнасцю ў досыць стракатай кампаніі гасцей Магілёва, куды завіталі, між іншым, Вілі Токараў ды носьбіты "блатных" песень і гарадскога дваровага фальклору. Нават конкурс маладых выканаўцаў запатрабаваў сёлета, апроч правераных часам узораў, прэм'ернага паказу песень цяперашніх, якім наканавана стварацьасяроддзе для заўтрашніх шлягераў.

Сярод канкурсантаў былі пасланцы Арменіі ды Украіны, Латвіі ды Расіі, Грузіі ды Румыніі... І — ЗША. Менавіта амерыканец Антоніё Марцінез, які лічыць сябе нашчадкам некалькіх нацый, быў узнагароджаны Гран-пры "Залатога Шлягера" і прызам глядацкіх сімпатый. Што да беларускіх спаборнікаў — Вікторыя Дземянчук ды Алена Макаранка падзялілі 3-ю прэмію... на траіх: з румынскім спеваком П. Суруджану. Устаноўлены з гэтага года спецыяльны прыз памяці Віктара Вуячыча атрымаў мінчук Анатоль Олех.

Вось, бадай, і ўсё...

**С. ВЕТКА**

ЮБІЛЕІ

***"Гаворыць Мінск! Радыёстанцыя імя Саўнаркома БССР пачынае сваю работу..." Гэтыя словы ўпершыню прагучалі 75 гадоў назад, 15 лістапада 1925 года. У гэты ж дзень адбылося ўрачыстае адкрыццё ў Мінску шырокавяшчальнай радыётэлефоннай станцыі. З таго часу роўным лікам 75 гадоў пастаянна вядуцца рэспубліканскія радыёперадачы. Прыемна адзначыць, што аднымі з першых супрацоўнікаў на радыё былі нашы беларускія пісьменнікі. Сярод іх Алесь Звонак, Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Юрэвіч. Увогуле, паэты і празаікі заўсёды былі жаданымі гасцямі і супрацоўнікамі на радыё. Яны знаёмілі слухачоў са сваімі новымі творамі: вершамі, апавяданнямі, гумарэскамі. Нямала галасоў нашых паэтаў, пачынаючы ад Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Петруся Броўкі і канчаючы тымі, хто жыве сягоння, захоўваецца на плёнках, якія складаюць залаты фонд Беларускага радыё. Актыўны ўдзел у рабоце радыё прымаюць пісьменнікі і сягоння. Радыё таксама імкнецца падтрымліваць цесную зваротную сувязь як з пісьменніцкай арганізацыяй рэспублікі, так і з майстрамі мастацкага слова.***

***У сувязі з юбілейнай датай Беларускага радыё я, яго супрацоўнік, і прапаную чытачам гэты верш.***

Васіль МАКАРЭВІЧ

## Каб праўда праўдаю была...

*Як не цягнулі*
*Ведзьмакі жыллё,*
*То ласкаю гаркотнай,*
*то бяссоннем,*
*Яно перабыло, перажыло*
*Салодкую хвалу*
*І трыццаць сёмы.*

*Партыйны бос*
*Альбо дзяржаўны крук,*
*Хоць і сляпак,*
*ды не апошні дурань, —*
*Хто не хацеў прыбраць*
*яго да рук,*
*Зрабіць сваім слухмяным*
*Трубадурам.*

*Люд рады быў*
*Любому рызману,*
*Гібеў ад галадухі і ад бедаў.*
*Ну а яму трубілі пра меню*
*Крамлёўскіх то прыёмаў,*
*То абедаў.*

*Пятляючы*
*Каля калдобін-ям,*
*Са слепатой,*
*хваробаю курынай,*
*Праўвадыру салодкі фіміям*
*Ад раніцы да вечара*
*Курылі.*

*Так гойдалі*
*Эфірны чуйны плёс*
*Гарластыя завучаныя тосты,*
*Ажно зляталі на хаду з калёс*
*Дзябёлыя і рэхвы*
*І атосы.*

*Пра кукурузу*
*Цёк хвалы ручай*
*У берагах знаёмых заскарузлых.*
*Здавалася,*
*што з рупара тырчаў,*
*Нібыта прэнт, пачатак*
*Кукурузны.*

*Ды перш,*
*Чым дакрануцца да раллі*
*Альбо прайсціся*
*непралазнай пушчай,*
*Кладзі паклоны тым,*
*хто у Крамлі*
*Сядзелі ачмурэлыя*
*Ад тлушчу!*

*Звінела скрыпка*
*І рыдаў габой*
*Часінаю самотнай і жалобнай.*
*І чуўся раніцой курантаў бой,*
*Нібы сякеры стук на месцы*
*Лобным.*

*Яно грымела*
*Да начы ў шынку*
*Для тых, хто ў пагонах*
*ды нашыўках,*
*І хто сядзеў у срэбры і шаўку,*
*Ды налягаў, як толькі мог,*
*На шынку.*

*Яго цягнуў*
*З картэйлем нейкі гранд,*
*Ды клён сабой падобны*
*да жаўнера,*
*І да ўсяго нядаўні эмігрант,*
*З зямлі няблізкай —*
*Рыо-дэ-Жанейра...*

*Будзённым днём*
*У вэрхале падзей*
*Ідзе да рабацяг і да ратая.*
*І той сырэц, што возьме*
*у людзей,*
*Найнакш, як чыстым золатам*
*Вяртае.*

*Шуміць, гудзе*
*На ўзмежку дзён быллё,*
*Ды прагнуць і халупы і вігвамы,*
*Каб толькі праўды*
*рупарам было,*
*Не знала падхалімства*
*І вагання!*

АНОНС

# "Восень" зоркі збірае

Хто яны, зоркі філарманічнага мастацтва? Гэта самаадданыя таленты, якія з маленства і амаль да сталага ўзросту настойліва вучацца і ўсё жыццё шматгадзіннай штодзённай працай падтрымліваюць сваю прафесійную форму, каб адпавядаць годнасці сур'ёзных музыкантаў. У адрозненне ад "стадыённых" куміраў, яны не спешчаныя галавакружнай імгненнай славай, у адрозненне ад растыражаванага "шырспажыву", яны нясуць плён жывой творчасці, жывыя гукі натхнення.

Так, традыцыйны, ужо 27-ы міжнародны фестываль "Беларуская музычная восень" можна лічыць святам сапраўдных зорак. Сёлета іх святлом будзе сімвалічна пазначаны надыход новага тысячагоддзя ў мастацтве, і з улікам гэтай акалічнасці складзена праграма фестывальных канцэртаў.

17 лістапада — урачыстае адкрыццё ў Вялікай зале сталічнай філармоніі. Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі на чале з Г. Праватаравым прапануе праграму, у якой "чытаецца" глыбокая філасофская канцэпцыя. Гістарычны шлях Беларусі. Гістарычны лёс Беларусі. Беларусь — і кон усяго чалавецтва. Прагучаць сімфонія У. Дарохіна N 3 "Францыск Скарына. Жыццё і бессмяротнасць", "Цэзій-137" В. Кузняцова, сімфонія N 3 "Карма" японскага кампазітара Ю. Такахасі. (Дарэчы, аўтар гэтага грандыёзнага твора прыедзе ў Мінск, але, на жаль, не на прэм'еру, а толькі 21-га, сустрэнецца з музычнай грамадскасцю, з журналістамі).

Наступныя канцэрты — адлюстраванне глыбокіх гістарычных, культурных, добрасуседскіх сувязяў Беларусі. Разам з Мінгарвыканкамам філармоніі ўдалося наладзіць у межах фестывалю Дні Вільнюса. Прыедзе Віленскі муніцыпальны Камерны аркестр св. Хрыстафора пад кіраўніцтвам Д. Каткуса; духоўную музыку балтыйскіх ды паўночных краін прадставіць Камерны хор Віленскага муніцыпалітэта "Яуна Музыка" на чале з В. Аўгусцінасам. Другая вялікая сімфанічная праграма пад кіраўніцтвам Г. Праватарава ўключае музыку нашых польскіх сяброў З. Краузэ (ён будзе саліраваць у сваім Фартэпіянным канцэрце N 1) і З. Багіньскага, творы беларускага кампазітара А. Соніна.



Прыедуць да нас, як заўжды, і расійскія музыканты: вядомыя піяністы М. Лідскі, М. Петухоў (цікава, што выкананнем Першага фартэпіяннага канцэрта П. Чайкоўскага будзе дырыжыраваць амерыканскі маэстра Б. Полэй, чые продкі родам з Піншчыны). Юных расійскіх музыкаў прадставіць Міжнародны дабрачынны фонд У. Співакова.

Зразумела, беларускія выканаўцы — заўсёдныя ўдзельнікі "восеньскіх" імпрэзаў.

Падчас фестывалю адзначыць сваё 10-годдзе Мінскі дзяржаўны духавы аркестр (да нядаўняга часу "Няміга" — дарэчы, людзі цвярозыя не бачаць прынцыповых падстаў для замены гэтай прыгожай гістарычнай, тыпова мінскай назвы творчага калектыву). Пад кіраўніцтвам яго маэстра П. Вандзілоўскага падрыхтавана разнастайная праграма, у тым ліку прэм'ера Сёмай сімфоніі К. Цесакова — пакуль адзінага твора ў беларускай музыцы, напісанага для духавога аркестра ў гэтым жанры.

Выступяць у дні фестывалю Акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча, Дзяржаўны ансамбль танца, Ансамбль салістаў "Класік-Авангард", інструменталісты, спевакі... Дарэчы, многія вядомыя імёны будуць прадстаўлены ў канцэрце, прысвечаным памяці нашага цудоўнага кампазітара-лірыка Ю. Семянякі, з дня нараджэння якога спаўняецца 75 гадоў.

Апроч дзвюх філарманічных залаў сталіцы, "Беларускую музычную восень" прымаюць з 17 па 30 лістапада многія канцэртныя пляцоўкі нашай краіны.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота У. ШЛАПАКА*

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА...*

## "Шануйце мову, каб не ўмёрлі..."

Надзённымі і па сёння словамі Францішка Багушэвіча называлася навукова-практычная канферэнцыя, што прайшла ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце. Яна была прысвечана 160-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры і гарачага абаронцы роднай мовы. Асоба і творчая спадчына Францішка Багушэвіча, ягоная літаратурная і грамадская дзейнасць у кантэксце XIX—XX стагоддзяў, ягоныя асветніцкія ідэі ў сістэме адукацыі, уклад у беларускае прыгожае пісьменства, лінгвістыку — гэтыя і многія іншыя пытанні разглядаліся на канферэнцыі. Было прачытана больш за 60 дакладаў — як выкладчыкамі-навукоўцамі з Брэста і Мінска, так і студэнтамі. У канферэнцыі бралі ўдзел таксама берасцейскія літаратары. А ініцыятыва яе правядзення належала дзяржуніверсітэту, абласной і гарадской арганізацыям Таварыства беларускай мовы і Навукова-асветніцкаму цэнтру імя У. Калесніка.

## Выстава ў Пружанскім палацiку

Адрэстаўраваны некалькі гадоў назад і аддадзены пад краязнаўчы музей Пружанскі палацік — помнік архітэктуры XIX стагоддзя — гасцінна расчыняе дзверы для мастацкіх выстаў. Зараз у ім, адразу ў трох залах, экспануецца больш за сто эскізаў, эцюдаў і карцін вядомага графіка і жывапісца Міколы Чурабы (1913—1998). У Пружанах знаны майстра некаторы час жыў і працаваў, пісаў абразы для храмаў, спяваў у царкоўным хоры. Успамінамі пра яго і ўражаннямі пра ягоную творчасць падзяліліся з першымі наведвальнікамі выставы жонка мастака Таццяна Уладзіміраўна Чураба, святар сабора Аляксандра Неўскага айцец Андрэй, захавальнік фондаў краязнаўчага музея Юры Зялевіч.

Выстава будзе працаваць на працягу месяца.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Памяці кампазітара

Адметнай з'явай у музычным жыцці Беларусі стала творчасць Рыгора Канстанцінавіча Пукста. Нарадзіўся ён у Гомелі, скончыў Маскоўскую кансерваторыю, выкладаў у родным горадзе і ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Напісаў 6 сімфоній, музыку для опер, дзесяткі песень.

З нагоды стогадовага юбілею кампазітара ў Гомельскім каледжы мастацтваў імя Н. Сакалоўскага адбыўся ўрачысты канцэрт з удзелам вядомых творчых калектываў Гомельшчыны: народнага цымбальнага аркестра, народнага акадэмічнага хору, хору нацыянальнай песні, лепшых юных піяністаў вобласці і сына кампазітара Яўгена Пукста, які выкладае ў Рэспубліканскім каледжы музыкі пры Беларускай акадэміі мастацтваў. У рамках святочных мерапрыемстваў адбылася і навукова-практычная канферэнцыя.

## Дом рамёстваў

У Светлагорску адкрыўся Дом рамёстваў — творчы і метадычны цэнтр развіцця народных промыслаў. Патрэба ў ім была самая неадкладная: горад даўно славіцца майстрамі. Зараз іхнія работы з лазы, саломкі, бяросты, а таксама разьба па дрэве, кераміка, аплікацыі, вышыўкі і ткацтва, жывапісныя карціны дэманструюцца ў Гомелі, у абласным Доме народнай творчасці.

## "Арфей і Эўрыдыка"

Нядаўна на сцэне гарадскога Цэнтра культуры і адпачынку выступіў Санкт-Пецярбургскі "Тэатр-опера". Артысты паказалі драматычную рок-оперу аб каханні "Арфей і Эўрыдыка" ў пастаноўцы заслужанага дзеяча культуры Расіі В. Падгарадзінскага. Адзін з аўтараў оперы — наш суайчыннік Аляксандр Журбін, які зараз жыве ў ЗША.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Святы Язафаце, маліся за нас!

У мінулую нядзелю каталікі Беларусі адзначылі дзень памяці святога Язафата, які ў 1618—1623 гадах быў архібіскупам Полацкім. Язафата Кунцэвіча забіў натоўп гараджан у Віцебску за ягоныя ідэі пашырэння Уніі на беларускіх землях (у 1596 годзе ў Берасці была падпісана Унія, якая зацвердзіла аб'яднанне Каталіцкай царквы з Праваслаўнай на тэрыторыі Рэчы Паспалітай).

У нядзелю ў Віцебскім кафедральным касцёле святой Барбары праходзіла Боская Літургія, у якой упершыню прымалі ўдзел пілігрымы з розных куткоў нашай Бацькаўшчыны. Літургію вялі мітрапаліт Варшаўскі і Перамысленскі Ян Мартыняк, святары Грэка- і Рымакаталіцкіх канфесій. Удзельнічалі ў ёй прадстаўнікі дыпламатычных місій Італіі, Францыі і Польшчы, спявалі хоры Мінскага кафедральнага сабора "Глорыя" і "Бацькаўшчына" з Гродна, выступіў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, які разам з Алесем Камоцкім напісаў гімн святому Язафату "Дарадца высокі".

Дарэчы, на сёння на Віцебшчыне зарэгістравана 67 Рымакаталіцкіх парафій, і дзве Грэкакаталіцкія.

## Пісьменнік — бібліятэцы

Дзве тысячы кніг у 2000-ым годзе да юбілею Уладзіміра Караткевіча атрымалі ў дар ад паэта Давіда Сімановіча бібліятэка імя Караткевіча і Віцебскі літаратурны музей. Гэта творы Уладзіміра Караткевіча, кнігі беларускіх пісьменнікаў-сучаснікаў, зборы твораў класікаў рускай літаратуры, шматтомныя энцыклапедыі і слоўнікі. У бібліятэцы імя Караткевіча адкрылася выстава "Вечнае святло вялікіх ісцін", на якой прадстаўлены падараваныя кнігі.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## "Дзяўчынка з кветкамі"

Магілёўская мастацкая дзіцячая школа ганарыцца сваёй выхаванкай Веранікай Непша. Не без падстаў. Вучаніца трэцяга класа ўжо стала пераможцай абласнога і трэцяга рэспубліканскага мастацкіх конкурсаў. А ўлетку на міжнародным пленэры па жывапісе ў Германіі яе карціна "Дзяўчынка з кветкамі" атрымала спецыяльны прыз.

Нядаўна ў Беларускай акадэміі мастацтваў Вераніцы ва ўрачыстай абстаноўцы былі ўручаны дыплом і медаль 31-ай дзіцячай міжнароднай выставы, якая праходзіла на Тайвані пад эгідай Сусветнай арганізацыі дзіцячай мастацкай творчасці.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*МІНШЧЫНА...*

## Вучацца работнікі культуры

З 21 па 23 лістапада пройдзе міжрэгіянальны семінар работнікаў культуры. Міншчыну наведаюць загадчыкі аддзелаў і дырэктары дамоў культуры з Віцебскай вобласці. Яны пазнаёмяцца з працай калег у Валожынскім, Маладзечанскім і Вілейскім раёнах.

**НАШ КАР.**



**ЧАСАПІС**

## І наступіць момант ісціны...



**Выхаду на экраны фільма М. Пташука "У жніўні 1944" ("Момант ісціны") чакаюць ужо даўно. Урэшце прэм'ера стужкі адбудзецца на адкрыцці міжнароднага кінафестывалю краін СНД і Балтыі "Лістапад-2000" акурат 22 лістапада. "Момант ісціны" нават уключаны ў конкурсную праграму фільмаў, што, несумненна, зробіць славуты кінафэст, які будзе праходзіць у Мінску ў сёмы раз, асабліва прыцягальным для аматараў кіно (нагадаю, што галоўны прыз "Лістапада" — прыз сімпатый гледачоў). Наогул сёлета, на думку намесніка міністра культуры Ю. Цвяткова, "беларуская праграма" фестывалю будзе даволі насычанай (звычайна, беларускія фільмы губляюцца ў патоку расійскай кінапрадукцыі і маюць нізкі бал у рэйтынгу гледачоў). Мінчукі змогуць убачыць новую стужку "Беларусьфільма" "Зорка Венера" М. Касымавай (прэм'ера карціны адбудзецца ў рамках Першага дзіцячага кінафестывалю "Лістападзік"), "Армію выратавання" Я. Краўцова (вытворчасць незалежнай беларускай кампаніі "Відэафакт"), руска-беларускія стужкі "Святы і грэшны" І. Салована, дзе галоўную ролю сыграў вядомы беларускі акцёр У. Гасцюхін (па словах Ю. Цвяткова, апошнім часам артысту не знаходзілася месца ў карцінах беларускіх рэжысёраў), а таксама "Алхімікі" Д. Астрахана, дзе галоўныя ролі былі даручаны вядомым расійскім тэлекомікам Стаянаву ды Алейнікаву, беларускай актрысе Г. Лягчылавай.**

**Конкурсная праграма фільмаў "Лістапада-2000" вельмі разнастайная: у фестывалі бяруць удзел восем краін, будуць паказаны дваццаць кінастужак (дарэчы, рэкордная колькасць для фестывалю). Вядома, паглядзець усе фільмы многім будзе, так бы мовіць, не па кішэні, бо стужкі будуць дэманстравацца ў дарагіх "долбі"-кінатэатрах "Кастрычнік" ды "Аўрора". Таму згадаю толькі тыя карціны, якія сапраўды варта паглядзець на вялікім экране, а гэта "Вяселле" П. Лугіна, "Месяцам быў поўны сад" В. Мельнікава, "Рускі бунт" А. Прошкіна (чарговая экранізацыя "Капітанскай дачкі" Пушкіна), "Зорачка мая любая" С. Мікаэляна, "Дзённік яго жонкі" А. Учыцеля (стужка прысвячаецца І. Буніну), "Зайздрасць багоў" У. Мяншова (фільм знакаміты ўжо тым, што ў ім сыграў Ж. Дэпардзье), "Усім прывітанне" Д. Тамашпольскага, "Прыкаваныя рыцары" Г. Чохелі, "Жыццё Эльзы" А. Пуйпы, "Месяцовы тата" Б. Худайназарава.**

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымку: акцёр Я. Міронаў у ролі капітана Алёхіна ("Момант ісціны"), адзін з прэтэндэнтаў на прыз "Лістапада-2000" у намінацыі "за лепшую мужчынскую ролю".*

## Запрашаем!

**Беларускі Саюз мастакоў, сталічны Клуб "Таленты і прыхільнікі" і Мастацкая галерэя "Медэя" арганізуе выставу-продаж твораў жывапісу, графікі, скульптуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва сучасных мастакоў на тэму "Купалаўцы ў выяўленчым мастацтве" — да 80-годдзя Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.**

**Адкрыццё выставы** ***24 лістапада 2000 года ў 15 гадзін*** **у галерэі "Медэя" (Акружны Дом афіцэраў).**

**Выстава будзе працаваць** ***па 5 снежня з 10 да 20 гадзін.***

**Выхадны — нядзеля.**

# "Я там, дзе сам..."

### ГУТАРКА ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА "ЛіМа" Алеся ПІСЬМЯНКОВА СА СТАРШЫНЁЙ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ Уладзімірам НЯКЛЯЕВЫМ

**— Апошнім часам ваша і без таго вядомае імя абрасло легендамі: дзе Някляеў, што Някляеў, з кім Някляеў? Зноў жа ваш цяперашні прыезд з Фінляндыі, як, дарэчы, і колішні ад'езд у Польшчу, стаў для ўсіх нечаканасцю. Паўтара года таму казалі, што вы з'ехалі назаўсёды. Ці зараз вы назаўсёды вярнуліся?**

— У адным з вершаў, што напісаліся ў Хельсінкі, пракінуліся радкі:

*Толькі таму, хто нідзе заставацца не можа,*

*Лёс дазваляе аднойчы дзе-небудзь застацца...*

Тым не менш, назаўсёды з Беларусі, са свайго дому, я нікуды і ніколі не з'язджаў. Я з Нальшы, са Смаргоншчыны, з Крэва — і тут мае крэўныя... Нават ніякавата казаць банальныя словы пра родныя магілы. Да іх я некалі назаўсёды і вярнуся.

Пакуль жа ў мяне ёсць магчымасць яшчэ амаль год спакойна папрацаваць у Фінляндыі. Такой магчымасці я не меў даўно, апошнія гадоў дзесяць, і быў бы проста апошнім дурнем, калі б яе не скарыстаў. Там я распачаў даволі нязвыклую для сябе працу — і не хачу яе кідаць. Тут, у нашых штодзённых вірах, яна так і застанецца распачатай. Як і многае іншае, што я распачынаў, а пасля не знаходзіў часу, каб завяршыць.

Што да таго, з кім Някляеў, дык пра тое трэба было б меркаваць не па легендах, а тым больш не па плётках. Хай бы тыя, хто завіхаўся зрабіць Някляева не сваім, не нашым, пацвердзілі гэта хоць адным радком, хоць словам з маіх артыкулаў, інтэрв'ю, выступленняў, не кажучы ўжо пра вершы. Ці хай бы знайшлі доказ таму ў выданнях, часопісе і газеце, якія я рэдагаваў — зноў жа хоць у адной публікацыі. Тады б я, можа, палічыў неабходным нешта тлумачыць, у чымсьці апраўдвацца, а так — выбачайце... Тлумачыцца і апраўдвацца перад плеткарамі — толькі дадаваць ім значнасці ды гонару.

Тое самае, каб да гэтага ўжо не вяртацца, магу сказаць і пра спробу зрабіць з мяне махляра, злодзея, які скраў мільёны і збег з імі за мяжу. Тут спробу ўлад, якім трэба было калі не ўгаварыць, дык змусіць Някляева да супрацоўніцтва, я разумею: барацьба ёсць барацьба. Зрэшты, крымінальная справа як з нічога пачалася, так нічым і скончылася, я на яе не надта зважаў. А вось на дапамогу, аказаную ўладам у гэтай "высакароднай" справе з боку сваіх, я не мог не зважаць, яна сталася для мяне, мякка кажучы, нечаканкай. Гэта цалкам супярэчыць майму разуменню жыцця і чалавечых, тым больш сяброўскіх узаемаадносін.

Пра гэта Васіль Быкаў пры адной з нашых замежных сустрэч страшнавата выказаўся са свайго вопыту: "Калі ў цябе ёсць дзесяць сяброў, дык мяркуй, што дзевяць з іх цябе прададуць. А лепш думай, што ўсе дзесяць". Я спытаў: "Дык як тады жыць, Васіль Уладзіміравіч?" І ён адказаў: "А так і жыві".

Не надта ўтульна, праўда?..

**— Гэта можна зразумець... Я маю на ўвазе не так тое, што сказаў Васіль Уладзіміравіч Быкаў, як ваша жаданне спакойна папрацаваць. Але ж вы не толькі паэт, літаратар, вы яшчэ і старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў. Як з гэтым быць?**

— А так і быць. Іншым разам адсутнасць значна лепшая, больш дзейсная за прысутнасць. На маю думку, гэта якраз той выпадак.

Я ўжо недзе казаў, што не адчуваю сябе вінаватым і не лічу, быццам сваімі дзеяннямі нанёс шкоду Саюзу беларускіх пісьменнікаў. Сціпла мяркую, што наадварот.

Што да воклічаў: "Кінуў!.. Пакінуў!..", — дык каго я кінуў, дзе пакінуў?.. Дзяцей у сіроцтве?.. Сяброў у акопе?.. Паслухаеш такое, пацепнеш плячыма — дый толькі...

Магчыма, для некага было б лепей, каб я быў ці ў турме, ці ў незваротнай эміграцыі. Але я, даруйце ўжо, і не там, і не там. Я там, дзе сам. Гэта мой лёс — і мне яго самому пражываць. А напаткае раптам ці турма, ці сапраўды незваротная эміграцыя — на ўсё Боская воля. Незалежная ад чалавечых прысудаў.

Калі ж некаму здаецца, што Някляеў зноў замнога мае, за мяжой гуляе ды яшчэ пасаду займае, дык што ж, калі ласка... Ёсць працэдура, закладзеная ў статуце. Выносіцца прапанова на раду, прымаецца рашэнне, склікаецца з'езд і пераабіраецца старшыня.

Я асабіста не супраць гэтага. Яшчэ ў Варшаве, зусім не ведаючы, што са мной будзе далей, я адначасова з заявай аб вызваленні ад пасады галоўнага рэдактара часопіса "Крыніца" прапанаваў разгледзець пытанне аб старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў. Тады гэтая прапанова не была прынята да разгляду... І, як паказаў час, правільна не была прынята, бо праблема старшыні сталася б толькі зачэпкай да пытання пра саюз, цалкам пра арганізацыю.

Што ж цяпер?

Абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў выконвае Вольга Іпатава.

Істотных прэтэнзій да таго, як яна іх выконвае, таксама як і сур'ёзных заўваг да дзейнасці намеснікаў старшыні Навума Гальпяровіча і Уладзіслава Мачульскага, ніхто з сяброў Саюза пісьменнікаў мне не выказваў. Вольга Іпатава, Навум Гальпяровіч і Уладзіслаў Мачульскі выконваюць свае абавязкі згодна з рашэннем рады, спраўляюцца з усімі творчымі, арганізацыйнымі і матэрыяльнымі праблемамі, па ўзаемадамоўленасці падзяліўшы паміж сабою і тую ношу, якая была на мне. Нехта з іх падабаецца некаму больш, нехта менш, але так было заўсёды. Пры ўсіх складанасцях Саюз беларускіх пісьменнікаў існуе як адзіная арганізацыя і нармальна працуе.

І, дапусцім, зараз з"езд...

Я сам пра яго думаў ад самага пачатку. Не ад пачатку неспадзяванай вандроўкі, а з дня прыходу на працу ў нашу творчую суполку. Не пра з'езд са скандальным арганізацыйным пытаннем, бо гэта ў любым выпадку другаснае, старшыні прыходзяць і сыходзяць, а пра з'езд-вынік, з'езд-падрахунак і з'езд-перспектыву. Усё-ткі мы хай на ўмоўнай, але на мяжы тысячагоддзяў — і гісторыя нашай літаратуры пранікае ў тысячагоддзе мінулае амаль наскрозь, да летапісцаў. Што зроблена беларускай літаратурай, беларускімі пісьменнікамі, волатамі і шарагоўцамі, для Беларусі? Што не зроблена? Што павінны мы, што мусім зрабіць?.. Якім чынам?.. Хіба ў нас такая падсумоўка, размова не пра літаратуру-занятак, літаратуру-сябе, а пра літаратуру-Радзіму хоць аднойчы, хоць на якім з'едзе адбылася?.. Дык самы час для яе, самая пара.

Гэта, зразумела, не значыць, што я ўхіляюся ад арганізацыйнага пытання,

калі яно на карысць агульнай справе, а не на маю, скажам, выгоду ці нейчую асабістую карысць. Але я і зараз думаю менавіта пра такі з'езд. На якім бы спалучыліся ўсе творчыя нацыянальныя сілы. Да якога падключылася б усё найлепшае, што мае Беларусь, каб пра яе падумаць.

**— Якой вам бачыцца Беларусь, наша беларускае жыццё з далёкага і сытага замежжа?**

— Доўгія расстанні зрушваюць акцэнты, змяняюць ракурс бачання... Гэта прыблізна аднолькава і ў выпадку расстання з каханай, сябрам, і ў выпадку расстання з Радзімай.

Нешта ўяўляецца яшчэ страшнейшым, чым было і ёсць на самай справе. З той жа Фінляндыі, грамадзянінам якой ты хоць і не з'яўляешся, але на кожным кроку знаходзішся пад аховай яе законаў, дзе цябе беспадстаўна пальцам ніхто зачапіць не можа, многае выглядае амаль што дзікунствам. Фіны дык проста гэтага не разумеюць. Ну, вядомая рэч, — "*чухонцы*".

Дарэчы, гэтыя самыя "*чухонцы*", краіна якіх на дзве трэція часткі знаходзіцца ў Запаляр'і, дзе, як вядома, бульба не расце, не могуць таксама зразумець, чаму гэта яны сытыя, а "*бульбашы*" галодныя... І не растлумачыш ім, чаму яно так, калі ў іх камяні ды скалы, а ў нас палі ды пагоркі...

Разам з тым штосьці здалёк выглядае больш прывабным, чым было і ёсць.

Гэта найчасцей тое, што паблізу незаўважнае, звыклае, няўлоўнае, але без чаго, аказваецца, немагчыма жыць. Менавіта тое, што ва ўсім, да апошняй драбязы — ***Радзіма.***

За час вандраванняў і сустрэч з мноствам самых розных людзей, перад якімі трэба адстойваць не толькі асабістую годнасць, але і годнасць роду, годнасць народа, для мяне ўзбуйніўся маштаб Беларусі. Гэта зусім не маленькая краіна на ўскрайку цывілізаванага свету, якая азіраецца ва ўсе бакі: хто ёй дапаможа стаць самастойнай і незалежнай?.. Гэта роўная сярод роўных, самадастатковая краіна, якая сваё для сябе пакуль не скарыстала, краіна з фантастычнай гісторыяй і неверагоднымі магчымасцямі развіцця эканомікі і культуры. Будзем мы і самастойнымі, і незалежнымі, мы ўжо такія ёсць, толькі хітра ў тым не прызнаемся. І пры гэтым маем яшчэ унікальны ў сваёй непаўторнасці і самабытнасці, у шчырасці і сціпласці край — замілаванне сэрца... І не дурням ён, між іншым, дастаўся. Асцярожнасць і абачлівасць — гэта не дурасць. Гэта гістарычная памяць, вопыт продкаў, што змушае захоўвацца, падказвае не лезці адразу з галавой у пекла. Ну, зрабілі мы паўзу, але паўза не ёсць пустата. Паўзы складаюць рытм быцця. Гэты рытм быцця і ўтварае нацыянальны характар. А з ім што зробіш?.. Нічога з ім не зробіш. Ты пройдзеш, а ён застанецца.

Не хацелася б, праўда, каб ён заставаўся нязменным і ў сваіх заганах. Скажам, нязменным у такой рысе беларускага нацыянальнага характару, як зайздрасць да сваіх. Беларус не пазайздросціць немцу ці паляку, у якіх па дзевяноста дзевяць жарабцоў сыта ржуць у канюшнях, бо яны ў немца ці паляка нібыта павінны і быць, і сыта ржаць, але можа змарнець ад зайздрасці беларус праз адну займетую суседам-беларусам кабылку. Тут ужо што ёсць — тое ёсць. Спадзяюся, што гэта ад беднасці, вечнай і беспрасветнай беднасці. Забагацеем — і пройдзе.

**— Вы не збіраліся, ці не збіраецеся пайсці ў палітыку? Розныя чуткі і наконт гэтага ходзяць.**

— Ну, хіба што ў прэзідэнты... Каб дэкрэтам адмяніць у беларускім людзе зайздрасць да сваіх. І яшчэ халопскую лісліваць перад панамі-начальнікамі і чужынцамі...

Мастак не надта гожа глядзіцца ў палітыцы. Калі ён уваходзіць у яе вядомым праз кіно, праз літаратуру, дык гэта*не тая*вядомасць. Яна не дапаможа стварыць палітычны імідж, а будзе скошваць, размываць ягоныя абрысы — і ўрэшце разбураць яго. Я ўсведамляю гэта...

**— Тады, паколькі вы не збіраецеся ў палітыку, давайце вернемся да літаратарскіх спраў. Вось мы кажам: Саюз беларускіх пісьменнікаў. А гэта ж і Васіль Быкаў, і Рыгор Барадулін, і Генадзь Бураўкін, і Ніл Гілевіч, і Аляксей Дудараў, і вы, і яшчэ паўтысячы самых розных людзей з несумяшчальнымі характарамі, пазіцыямі, амбіцыямі. Чаму ўсе мы разам, што нас аб'ядноўвае — і колькі яшчэ прадоўжыцца гэтае шмат у чым фармальнае яднанне? Карацей, якім вы бачыце лёс Саюза пісьменнікаў? Ці значыць ён нешта ў сённяшнім грамадска-палітычным жыцці? Што чакае яго заўтра?**

— Заўтра, гэта значыць ва ўжо недалёкай будучыні, Саюз пісьменнікаў у тым выглядзе, у якім ён зараз існуе, непазбежна скончыцца. Як скончыцца нарэшце ў нас і шмат што іншае...

Пакуль жа Саюз беларускіх пісьменнікаў існуе таму і для таго, каб гэтаму "шмат чаму іншаму" супроцьстаяць. У любой форме, няхай у самай ціхай, але *арганізацыйна* ці аказваць, ці выказваць супраціў. Гэта не афішуецца, не вызначаецца, як асноўная задача, бо гэта супярэчыла б статуту грамадскай арганізацыі, але яно так. Так яно і для наваспечаных функцыянераў, і для адмарожаных байцоў з былой ідэалагічнай гвардыі, якія ўсё даводзяць, што Саюз пісьменнікаў існуе для таго, каб пісаць паэмы і раманы, а не прымаць звароты ды заявы. Так яно нават для тых літаратараў, якія ў запале заяўляюць, што мала зваротаў і мала заяў, што трэба адважыцца на нешта рашучае, адчайнае, што Саюз пісьменнікаў цалкам усе свае магчымасці скарыстаў, але чамусьці, астыўшы і падумаўшы, свае права выйсці з такога саюза не скарыстоўваюць...

Калі б яно было інакш, каб не было супроцьстання, дык у Саюза беларускіх пісьменнікаў праблем з уладамі ўзнікала б не болей, а нават меней, чым у астатніх творчых аб'яднанняў. Я нікога і ні ў чым не хачу пакрыўдзіць, але Саюз пісьменнікаў адзіная *не палітычная* і цалкам *беларуская*, цалкам *нацыянальная* арганізацыя. І гэта галоўнае, і гэта разумеюць улады, таму і кідаюцца з крайнасці ў крайнасць: то цацкаюцца з літаратарамі, то зневажаюць іх:*гэтыя пісь-мень-ні-кі...*І пакуль кіраўнікі краіны скарыстоўваюць беларускую мову найчасцей для таго, каб выказаць пагарду да яе носьбітаў, як літаратарам разыходзіцца, куды разбягацца?.. Дзеля агульнай справы можна і трэба пераадолець прыватнае і асабістае: хто вялікі, хто меншы, хто каго любіць, хто каго чубіць...

*Гэтыя пісьменнікі*, пры ўсёй несумяшчальнасці характараў, пазіцый, амбіцый, разумеюць сутнаснае: трэба стаяць на тым, на чым стаіць Беларусь, на чым стаіць нацыя. Іншага падмурку, іншай апоры няма, іначай усе мы — пыл на ветры. А разуменне гэтае не з таго, пра што *гэтыя пісьменнікі* на сходах думаюць, на мітынгах прамаўляюць, а з таго, што ў сабе і наўкол ствараюць, бо найперш яны, іх славутыя папярэднікі і ёсць стваральнікі Беларусі, стваральнікі нацыі. Гэта тая гістарычная роля, якую ім наканавана было выканаць, і якую яны выканалі. Сама ідэя сучаснай беларускай дзяржаўнасці, рэалізаваная ў стварэнні БНР,

*(Працяг на стар. 15)*

***Гэтых жанчын можна ўбачыць каля любога больш-менш буйнога універсама сталіцы... Да іх стараюцца не набліжацца, іх акідваюць пагардлівымі позіркамі. А калі хто-небудзь і звяртаецца, то без павагі або спачування. Між тым, у сваім асяродку такія жанчыны — атаманшы. Ці то рэшткі мацярынскага інстынкту, ці то спрадвечнае жаночае імкненне да сямейнай цеплыні вызначае іх ролю ў кампаніі алкаголікаў — "мамаша". Менавіта яна падлічвае, колькі не хапае да паўлітры, вырашае, дзе дастаць грошы, бярэ на сябе клопат па арганізацыі няхітрай закускі, уважліва сочыць, каб кожны атрымаў сваю долю ў гранёнай або пластыкавай шклянцы. У такіх кампаніях няма палавых размежаванняў, усе роўныя. Але па статыстыцы, як ні дзіўна на першы погляд, менавіта жанчыны пераважаюць у асяроддзі бамжоў. Замест імёнаў — мянушкі, замест жыцця — існаванне.***

# Пастка

## ЖАНОЧАЕ П'ЯНСТВА НА БЕЛАРУСІ НЕ СПЫНІЦЬ НІХТО, АПРАЧА ДЗЯРЖАВЫ?

Маскулінізацыя (гэтым тэрмінам наркалагі абазначаюць незваротныя працэсы, якія выклікае алкаголь у жаночым арганізме) ператварае слабы пол у мужападобныя істоты. Грубы хрыплы голас, ацёчны твар. І нават сваімі паводзінамі "мамашы" імкнуцца паходзіць на мужчын. Ад жанчыны ў іх застаецца адзінае — тое, што медыкі называюць "сіндромам бруднага твару і пафарбаваных вуснаў". Тэрмін настолькі дакладна перадае партрэт алкагалічкі, дасягнуўшай сацыяльнага дна, што ў расшыфроўцы няма неабходнасці.

На ўліку ў гарадскім наркалагічным дыспансеры — каля 5 тысяч мінчанак, і гэта — толькі верхняя частка айсберга. Рэальная лічба ў некалькі разоў вышэй. Пад кантроль медыкаў трапляюць толькі тыя, хто на нейкім этапе свайго алкагольнага ачмурэння знайшоў сілы самастойна звярнуцца па дапамогу, або тыя, ад каго яшчэ не адвярнуліся родныя і сваякі. Зрэшты, у большасці выпадкаў на прыём да нарколага такіх жанчын прыводзяць менавіта родныя.

Існуе дзіўнае меркаванне, што п'янаму не толькі "мора па калена", але і небяспека яго абыходзіць бокам. На самай справе, па словах **выконваючага абавязкі галоўнага ўрача Мінскага гарадскога наркалагічнага дыспансера Уладзіміра Вільтоўскага**, алкагольны траўматызм — асноўная прычына гібелі ягоных патэнцыяльных пацыентак. Не трэба думаць, што словы Уладзіміра Іосіфавіча адносяцца да той катэгорыі жанчын, з якіх пачаўся наш аповед. Жыццё і смерць "мамаш" ужо нікога не цікавіць — ні грамадства, ні іх сабутэльнікаў. Некалькі год таму было адменена прымусовае лячэнне алкаголікаў. Можа, гэта і з'яўляецца праявай дэмакратызацыі нашага грамадства, але сотні людзей апынуліся без сацыяльнай і медыцынскай дапамогі. Яны проста прадстаўлены самім сабе. Тых жа, хто стаіць на ўліку ў наркалагічных дыспансерах, часта суседзі і калегі лічаць здаровымі людзьмі, добрымі маці і работніцамі...

З Таццянай Фёдараўнай я пазнаёмілася ў 35-м жаночым наркалагічным аддзяленні Рэспубліканскай клінічнай псіхіятрычнай бальніцы. Упершыню яна трапіла сюды пяць год назад. Пасля лячэння ў яе жыцці ўсё быццам складвалася добра. І раптам рэцыдыў — запой. Таццяна ФЁдараўна, адчуўшы, што сама не выратуецца, прыйшла ў бальніцу... Прыемная 48-гадовая жанчына — прадстаўніца групы так званых "кухонных п'яніц", колькасць якіх зараз катастрафічна павялічваецца. На першы погляд, усё ў такіх жанчын добра: цудоўны муж, вышэйшая адукацыя, матэрыяльны дабрабыт. Але... няма дзяцей і любімай работы, а сэнс жыцця зводзіцца да адзінокага сядзення перад тэлевізарам: муж днямі зарабляе грошы. У Таццяны Фёдараўны добрыя шанцы на поўнае выздараўленне: яна шчыра хоча пазбавіцца хваробы. Але медыкі сцвярджаюць: алкагалізм толькі тады адступае, калі чалавек, які прайшоў поўны курс лячэння, не ўжывае спіртное 2-3 гады. Па словах загадчыцы 35-га жаночага наркалагічнага аддзялення Аксаны Хох, выпадкі, калі чалавек не п'е больш ніколі, надзвычай рэдкія. Асабліва гэта датычыцца жанчын.

Не сакрэт, што алкагольная залежнасць у жанчын фарміруецца хутчэй і выражаецца больш ярка, чым у мужчын. Звязана гэта з асаблівасцямі жаночага арганізма, і ў першую чаргу — з асаблівасцямі псіхалагічнымі. У нашым патрыярхальным грамадстве падзенне пітной жанчыны па сацыяльнай лесвіцы адбываецца ў некалькі разоў хутчэй, чым мужчыны. Жаночы алкагалізм асуджаецца значна больш. Таму часцей за ўсё сваю праблему жанчына стараецца хаваць, пакуль гэта магчыма. Не дзіўна. Большасць суайчыннікаў яшчэ захавала ўсведамленне таго, што жанчыне Богам наканаваны зусім іншы лёс, другія арыенціры ў жыцці. Але ці шмат беларускіх жанчын сёння могуць спраўдзіць гэтае наканаванне?

Праблема вытокаў жаночага алкагалізму настолькі складаная і супярэчлівая, што нават у вядучых спецыялістаў у гэтай галіне няма адзінага погляду на пытанне.

— Не існуе жаночага, мужчынскага або падлеткавага алкагалізму, — кажа Уладзімір Вільтоўскі. — Існуе алкагалізм увогуле. Неабходна шукаць вытокі менавіта агульнай з'явы. Алкагалізм становіцца сёння ўсё маладзейшы. У дыспансеры трапляюць дзяўчаты і хлопцы 14—17 гадоў. А што далей? Смерць нацыі?

У Аксаны Хох сваё меркаванне:

— Жаночы алкагалізм — з'ява адмысловая. І падыходы павінны быць адпаведнымі. Таму ў час лячэння жанчыны галоўнае месца займае псіхатэрапія...

Усё натуральна. Мужчынскі падыход адрозніваецца ад жаночага.

Так ці інакш, у адказ на пытанне "ці існуе нейкая агульная прычына жаночага алкагалізму?" дактары разводзяць рукамі. Прычыны самыя розныя, не пералічыш. Тым больш, што размова вядзецца пра жанчыну, чыя душа (перакананаў гэтым!) спрадвеку больш адкрытая і тонкая, чым мужчынская. Нам выпала жыць у час нястач і стрэсаў, і менавіта жанчыны найчасцей застаюцца безабароннымі і бездапаможнымі ў бурлівым сённяшнім жыцці...

Здавалася б, Беларусь ужо выплакала ўсе слёзы за апошнія гады. Але ці магчыма прывыкнуць да болю? Адышлі ў нябыт жалобныя мітынгі і грамадзянскія паніхіды на "крывавай рацэ" Нямізе, і маці загінуўшых засталіся сам-насам з непапраўнай бядой, з тым, што замест іх дачок і сыноў — толькі няроўныя радкі атрамантам на халодным мармуры падземнага пераходу... Алена Андрэеўна страціла адзіную дачку. Ніколі раней яна не дакраналася да спіртнога. За апошні год у 35-м наркалагічным аддзяленні яна пабывала ўжо тры разы. Ці можна яе асудзіць? Ці змогуць нават высокакваліфікаваныя псіхатэрапеўты, псіхологі і наркалагі вярнуць яе да нармальнага жыцця?..

Для прыгожай 28-гадовай Наталлі жыццё скончылася 7 год таму, у дзень недарэчнай, выпадковай гібелі яе мужа. "Дарожна-транспартнае здарэнне" перакрэсліла яе лёс. У аддзяленні дзяўчына чацвёрты раз. У Наташы ёсць сын, Алёшка. Напэўна, нямнога шчасця бачыў хлопчык у жыцці: маці нярэдка прапівала ўсе грошы, і ў доме не было нават чаго есці. Наталля і сама ведае цяжар дзяцінства ў сям'і п'яніц. Яна вырасла ў "неперспектыўным" трактарным раёне Мінска. Скончыла ПТВ, зараз працуе тынкоўшчыцай.

— Люблю класічную музыку, — кажа Наташа і чамусьці ўзбуджаецца. — Ну, Баха, Моцарта... Слухаць люблю адна. Яна такая сумная... і прыгожая... Хачу кінуць піць назаўсёды. І каб Алёшка вырас такім жа, якім быў яго бацька...

Аксана Хох расказвае:

— На жаль, адна з самых галоўных нашых праблем у тым, што жанчына, скончыўшы курс лячэння, зноў трапляе ў тое ж асяроддзе і ў тыя ж абставіны, якія вымусілі яе звярнуцца да спіртнога як да адзінага ратунку. Мы часцей за ўсё губляем сувязь з пацыентамі. Амаль кожная з іх, выходзячы з бальніцы, вымушана выбіраць: што рабіць далей, куды ісці. Чалавек ніколі не стане піць ад добрага жыцця. І праблема тут не медыцынская, а жыццёвая, чалавечая. Яе і трэба вырашаць. Таму, я лічу, наркалагічным дыспансерам трэба супрацоўнічаць у першую чаргу з сацыяльнымі службамі. А гэтага пакуль што няма. І таму вельмі крыўдна, калі нашы былыя пацыенткі трапляюць да нас зноў і зноў, хоць з медыцынскага пункту гледжання зроблена ўсё магчымае для іх выздараўлення...

Аксана Віктараўна Хох гаворыць нягучна. Усе яе фразы — лаканічныя, дакладныя. Яны як бы адбіваюцца ў розуме субяседніка. Гэта — прафесійнае. Асноўная зброя псіхатэрапеўта — гутарка, размова.

— Я гавару тым, каго выпісваю: тэлефануйце, прыязджайце, расказвайце пра свае праблемы. Не заўсёды можна імі падзяліцца з роднымі, сяброўкамі. А доктар захоўвае ўрачэбную тайну. Калі змогам — дапаможам практычна, звернемся ў неабходныя інстанцыі. Калі не — проста па-чалавечы, пажаноцку паспагадаем, памяркуем разам, што рабіць. Я ўпэўнена: выхад заўсёды знойдзецца...

І тэлефануюць, прыязджаюць. У час нашай размовы Аксане Віктараўне патэлефанавала былая пацыентка.

— Канешне прыязджайце заўтра. У мяне будзе час. Пагаворым...

Выхад ёсць заўсёды, але... Ці ёсць, напрыклад, выйсце для жанчыны-бамжа, якая жыве на мінскіх Паўночных могілках? Яе падабрала "хуткая дапамога" ў стане алкагольнага псіхозу. Медыкам цяжка было справіцца з цэлым букетам яе хвароб. Гэтую жанчыну выпісалі ўчора. Колькі часу пройдзе, перш чым яна зноў трапіць сюды? Тыдзень, месяц або некалькі дзён?

Вось яшчэ тыповая гісторыя, адна з тых, якія ўрачы-наркалогі Мінска выслухваюць тысячамі. Жанна — маладая, надзвычай прывабная дзяўчына. Ёй 24 гады. Вышэйшую адукацыю атрымала ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце, на факультэце дашкольнага выхавання. Нягледзячы на тое, што жыццёвы шлях дзяўчына абірала свядома ("я вельмі люблю дзяцей", — сказала яна мне), першая ж зарплата не пакінула сумненняў: яна памылілася. Грошай на элементарныя жыццёвыя патрэбы Жанне, зразумела, не хапала. У бацькоў, акрамя яе, яшчэ чацвёра дзяцей, і дапамагаць матэрыяльна яны не мелі магчымасці, а сама дзяўчына не з тых, хто шукае "спонсара". І аднойчы Жанна вырашыла: хопіць! Пайшла гандляваць на рынак. Зімою, у моцны мароз, без ста грамаў прастаяць цэлы дзень пад адкрытым небам немагчыма. А прывыканне да спіртнога развіваецца ў жанчын надзвычай хутка. Цяпер Жанна ў роспачы: як жа здарылася, што яна апынулася тут?

— Маці вельмі шкада, — прызнаецца дзяўчына. — Яна так перажывае...

Жанчыны, якія вымушаны пакінуць дзяржаўную працу, тыя, што гандлююць на рынках, — група рызыкі, патэнцыяльныя пацыенткі наркалагічных медыцынскіх установаў. Але ці складана кожнаму ўявіць сітуацыю, што іншага выйсця з нішчымніцы не існуе. Трэба ж жыць самой, а нярэдка яшчэ і карміць дзяцей, здараецца, і хворых бацькоў...

Бывае, жанчына пачынае піць, калі моцна п'е муж. З уласцівай ёй ад прыроды самаахвярнасцю жонка разважае: хай лепш п'е дома, а я вып'ю з ім — яму менш застанецца. Вынік — так званы парны, сямейны алкагалізм.

— Развесціся з ім? Не! — абураецца мая субяседніца. — Так, ён натуральна будзе піць. Але ж гэта бацька маіх дзяцей, мы разам ужо 12 год. І хто прыгледзіць за ім, калі я яго выганю...



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

Сказаць, што пакутуюць яе дзеці, я не адважылася, паглядзеўшы ў вочы гэтай жанчыны. Муж яе зараз лечыцца ў гэтым жа корпусе на другім паверсе — у так званай мужчынскай наркалогіі. Кацярыне ўсё ж удалося давесці яму, што ім разам трэба звярнуцца па дапамогу. У вольны час муж і жонка сустракаюцца і, седзячы на лаўцы ля корпуса, ціха аб нечым гамоняць. Магчыма, у Кацярыны і атрымаецца вярнуць на 2-3 гады мір у сям'ю. Дай Бог! Хоць часовае, але жаноцкае шчасце...

З якой прычыны жанчына п'е? І чаму тых, хто шукае паратунку на дне бутэлькі, сярод жанчын усё больш? Чаму ахвярамі становяцца прадстаўніцы ўсіх станаў нашага грамадства: выкладчыцы ВНУ, работніцы заводаў, фабрык, калгасніцы, жонкі забяспечаных мужчын і тыя, хто не можа купіць дзіцяці цукерку, зусім маладыя і пажылыя? І, галоўнае, як спыніць гэту лавіну? Праблему, натуральна, трэба вырашаць на сацыяльным, грамадскім, дзяржаўным узроўні. Пацыенткі 35-га жаночага наркалагічнага аддзялення не адчуваюць сябе сацыяльна і матэрыяльна абароненымі. Медыкі сцвярджаюць, што рост алкагалізму сярод жанчын заўсёды звязаны з паніжэннем узроўню жыцця. Карацей, шанцаў у жанчын аніякіх. Лепшая палова Беларусі няўхільна співаецца.

**Алеся АНЦЫЛЕВІЧ**

ЛіМ **ЧАСАПІС**

## "Літасць надзеі"

**З вершамі Алы Кажэры ў розны час маглі пазнаёміцца чытачы часопісаў "Маладосць", "Беларусь", "Роднае слова", "Алеся". Друкаваліся яны і ў штогодніку "Дзень паэзіі", а таксама на старонках "ЛіМа". А да ўсяго Ала Васільеўна вядома і як аўтар песень: асобныя яе творы на музыку паклалі кампазітары Леанід Захлеўны, Эдуард Зарыцкі, Алег Чыркун, Зміцер Яўтуховіч. Зарэкамендавала А. Кажэра сябе і як прыхільнік беларускасці. Працуючы выкладчыкам роднай мовы і літаратуры (цяпер — настаўніца сталічнай школы N 38), прымае актыўны ўдзел у адраджэнскім руху, узначальвае настаўніцкі камітэт Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, была адной са стваральніц Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра і ліцэя пры ім. Нядаўна, дзякуючы рэдакцыі часопіса "Маладосць", з'явілася магчымасць пазнаёміцца з творчасцю А. Кажэры шырэй: яе кніга "Літасць надзеі" стала вераснёўскім зборнікам "Бібліятэкі..." гэтага выдання. Як і трэба было чакаць, сярод твораў нямала такіх, у якіх у розных аспектах закранаецца тэма Адраджэння, вернасць бацькоўскай зямлі, любасці да матчынай мовы.**




**Лірычная гераіня А. Кажэры не хавае таго, што ў яе на душы. Яе споведзь — споведзь чалавека, якому баліць за будучыню Бацькаўшчыны. Гэтыя матывы нарадзілі і верш, што адкрывае зборнік:**

*З неба чорная ўпала заслона,*
*На аблоках выява крыжа.*
*Табе, мова мая, нарачона*
*Крочыць босай па вострых нажах.*

*Мне скаціліся гронкай слязінак*
*Твае словы з вачэй-таямніц,*
*Прараслі, як сунічкі з крывінак,*
*Гукі песень з дарог-камяніц.*

*Як пайду спавядальнай чаргою,*
*У багоў аднаго папрашу:*
*Роднай мовы жывою вадою*
*Акрапіць у народа душу.*

**Заканамерна і вяртанне да вытокаў, у гады маленства і юнацтва. А. Кажэра нарадзілася ў Оршы, але зберагла ў сэрцы замілаванне родным, беларускім дзякуючы таму, што поруч знаходзіліся людзі, якія з'яўляліся сапраўднымі і шчырымі носьбітамі ўсяго гэтага: "Чую песні маладосці мамы, // Ажылі, бы казачныя сны, // Гукі меладычнай светлай гамы, // Што гучала ў песнях да вайны. // Ручайкамі чыстымі ўліліся // Ў грукату і шуму вадаспад. // Прыпыніся, друг мой, азірніся — // Шчэ жыве наш старадаўні сад". А поруч — верш "Кварта". Таксама захапленне даўнім, з гадоў, якія прайшлі незваротна ды след пакінулі назаўсёды: "На ўспамін мне слова гэта // ў сэрцы, ў памяці жыве: // Мая бабуля Лісавета // Той кубак квартаю заве". Ёсць у А. Кажэры і вершы, якія магла напісаць толькі настаўніца — настолькі яны такія шчырыя, непасрэдныя, столькі ў іх любасці да выхаванцаў. Як у гэтым:**

*Перада мною вочкі,*
*Быццам луг у квецені,*
*Рознакаляровымі кветкамі*
*Расквечваюць кожны дзень мой,*
*Якой жа трэба быць мне,*
*Каб не завялі ніколі*
*Кветачкі-вочкі вучняў маіх?*

**Шмат у кнізе і твораў пра каханне і ростані, пра любоў і здраду. Лірычная гераіня А. Кажэры, як і кожная жанчына, жыве спадзяваннем шчасця і паразумення і нярэдка сутыкаецца з суровымі рэаліямі рэчаіснасці:**

*Трагедыйнасць апошняй дзеі,*
*Шэры попел з агню пачуцця,*
*І адна толькі літасць надзеі*
*Кліча на авансцэну жыцця.*

**І перамагае іх, каб працягваць жыць. Каб шукаць сваё адзінае каханне.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# «Сябе выпрабоўваю болем...»

Паэзія — з'ява жаночага роду, і гэтым багата што сказана. Наўрад ці выпадае аспрэчваць той характарыстычны факт, што жанчыны твораць своеадметную літаратуру, літаратуру асаблівай прыроды, зместу і формы. Гэтую своеадметнасць можна акрэсліць вызначэннямі накшталт наступных: падкрэслена рамантычная, гранічна пранікнёная, чуйная да выяўлення найтанчэйшых душэўных перажыванняў, лірычна-споведная і інш. Аднак, трэба прызнаць, характарыстычна-вычарпальнымі яны будуць не да канца, бо, сапраўды, калі чытаеш твор, напісаны жанчынай, амаль заўсёды ў працэсе яго ўспрымання прысутнічае нешта невытлумачальнае, інтрыгуючае, надрэальнае, тое, што доўга трымае цябе ў духоўным напружанні, палоне, не адпускае.

Радасць якраз такой сустрэчы дорыць нам кніга выбраных і новых вершаў вядомай паэтэсы Галіны Каржанеўскай «Асенні мёд»*, якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Лірычнай гераіняй кнігі з'яўляецца жанчына, якую выпрабоўвалі шчасце і пакуты, сустрэчы і расстанні, бязвер'е і надзея, імкненне да ачышчэння:

***Мне праніклівасць доля дала:***
***Я шукаю на тварах святла.***
***Я шукаю чагосьці такога,***
***Што з'яўляецца***
***сведчаннем Бога.***

***Ды, бывае, не бачу нічога.***
***Толькі шэрань бяздум'я***
***і тла.***

**«Мне праніклівасць доля дала...»**

Структурна-кампазіцыйна зборнік Г. Каржанеўскай выглядае наступным чынам: у яго аснове два вялікія раздзелы — «Паміж явай і сном» і «Я шукаю на тварах святла» — і своеасаблівы вершаваны цыкл, лірычная драма ў трох дзеях «Асенні мёд». Пад вершамі няма дат іх напісання; трэба думаць, яны пададзены не ў храналагічнай паслядоўнасці, а ў адпаведнасці з пэўнымі духоўна-філасофскімі ідэямі аўтара і характарам іх раскрыцця. Несумненна, кампазіцыю кнігі паэтэса намагалася падпарадкаваць яе асноўнай сілавой лініі — жаночай спавядальнасці, выяўленню духоўнага свету асобы, глыбокіх душэўных перажыванняў нашай сучасніцы. Чытач можа толькі здагадвацца, якім жыццёвым перыядам, якімі канкрэтнымі акалічнаснымі абставінамі і варункамі быў народжаны той ці іншы паэтычны тэкст, можа спрабаваць вызначыць гэта па пэўных прасторава-часавых прыкметах, яго праблемна-тэматычнай заангажаванасці і экспрэсіўнай афарбоўцы і г.д. Варта падкрэсліць і тую істотную дэталь, што, праходзячы праз усе асабістыя і грамадскія выпрабаванні, лірычная гераіня Г.Каржанеўскай заўсёды ці амаль заўсёды захоўвае, па-першае, характар і профіль рознабаковай дзейнасці, а, па-другое, высокі тонус асобаснай актыўнасці.

Душа — жаночая, стромка-трапяткая, крылатая — нясе сваю жыццядайную энергію ў многіх цікавых і арыгінальных вершаваных радках і строфах паэтэсы, поўных глыбокага роздуму і вынашаных высноў: «Душа павінна вызваляцца Хоць раз у месяц, раз у год»; «Душу паволі вытанчаць пакуты, Сляза адбеліць, загартуе боль»; «Душа раскрыжавана, ў змроку доля...» Адораная Богам, уталентаваная Музай, лірычная гераіня ставіць пытанні, здаецца, апелюючы да ўсяго свету:

***Што трэба душы,***
***каб у ёй не было***
***Зацятасці згубнае,***
***вартае жалю?..***

**«Што трэба траве...»**

Адказы на іх носяць як прыватна-асабісты, так і глыбока філасофскі, агульнагуманістычны, універсальны характар: «Цяпло чалавечае. Толькі цяпло, — Трава, і рака, і душа адказалі».

Сапраўднаму мастаку, таленавітаму творцы ў гэтым супярэчлівым і складаным свеце, бадай, заўсёды душэўна няўтульна і маральна дыскамфортна, цяжка. У яго душы заўсёды пануюць непакой, напружанасць і клопат. Шмат у чым якраз гэтыя якасці выяўляюць у зборніку энергічную, упэўненую ў сабе, самастойную, гордую жанчыну, у нечым нават фемінізаваную. Ведаючы сабе цану, яна можа, напрыкпад, досыць іранічна і нават саркастычна ацаніць мужчыну адстойваючы сябе, сваё месца ў грамадскім асяроддзі, ідэалы і першакаштоўнасці. Актыўна сцвярджаючы свае права на незалежнасць, яна здольна на рашучыя дзеянні, парыўчатыя жэсты і ўчынкі. Найбольш ярка і пераканаўча гэтая тэндэнцыя выяўлена ў вершах публіцыстычнага характару, так званай грамадзянска-патрыятычнай лірыцы.

Паэтэсу хвалюе незайздросны стан нашай прыроды, экалагічныя і сацыяльныя праблемы і беды грамадства, яе цікавяць высокія сферы культурніцкага і палітычнага жыцця дзяржавы. Яна пратэстуе супраць ніпеліроўкі чалавечай асобы, занядбання святых ідэй свабоды і справядлівасці, асуджае мяшчанства і эгаізм, пасіўнасць у грамадстве. Прымушаюць задумацца, будзяць патрыятычную свядомасць чытача многія яе вершы: «Калі народ ідзе на звод...», «Іранічнае», «Горад», «Натоўп», «У чарзе» і інш. Паказальна, што большасць такіх твораў змешчана ў першым раздзеле кнігі.

Дарэчы, у некаторых сваіх прамоўніцкіх па характары маналогах, на наш погляд, паэтэса бывае празмерна шматслоўнай і досыць агульнай. У такіх выпадках заклікавы пафас радка, налёт рытарычнасці прыглушаюць яго эстэтычны змест, зніжаюць мастацкія вартасці і ў выніку — эфектыўнасць уздзеяння на чытача. Лірычная гераіня, напрыклад, гатовая змагацца і з гонкай узбраення ў свеце, і з эканамічнымі і духоўна-маральнымі праблемамі нашага грамадства і інш. Праўда, усё гэта характэрна, галоўным чынам, ранняй лірыцы паэтэсы, якая вылучаецца-апазнаецца і ідэйна-зместава, і настраёвасцю, і стылістычна. У вершах пазнейшага часу публіцыстычны напал паступова спадае, саступае месца спакойнай танальнасці, тонкаму рэфлексіўнаму самааналізу, гучнасць прамаўлення змяняецца традыцыйнымі для нашай паэзіі формамі характэрнага медытатыўнага мыслення. Усё ярчэй і больш пераканаўча акрэсліваецца ў творчасці Г.Каржанеўскай тэндэнцыя да філасофскага асэнсавання рэчаіснасці, паэтызацыі адвечных норм чалавечай маралі і этыкі, народнай педагогікі, каштоўнасцей чалавечага жыцця на зямлі.

***Калі чалавеку чужому***
***Раптоўна, ў парыве гарачым***
***Адкрыю душу без развагі —***
***Я набываю ці трачу?***

***Калі чалавека чужога***
***Давер'ем сваім перайначу,***
***Калі не шкадую пяшчоты —***
***Я набываю ці трачу?***

***Калі, чалавека згубіўшы.***
***Слязамі маўклівымі плачу.***
***Сябе выпрабоўваю болем —***
***Я набываю? Трачу?***

**«Набываю ці трачу?»**

Несумненна, у гэтых і многіх іншых радках уважлівы чытач адчуе прысутнасць падкрэслена лагоднай, зычлівай душы і пяшчотнага, ранімага сэрца.

У кнізе шмат цікавых назіранняў з жыцця, трапных характарыстык і накідаў, жывапісна-выяўленчых карцін і замалёвак. Вось пачатак эцюднага палатна: «На возе з бітонамі — мажная целам, Тварам ружовая — баба сядзела...» («Эцюд»). А гэта даўні, але памятлівы для аўтаркі ўспамін: «Ішла і плакала жанчына»:

***Ці маці страціла, ці сына —***
***Не ведаю.***
***Хапае ў свеце бед!***
***Чым перад ёю правініўся свет***
***На гэты раз?***
***Як мы усе.***
***Яна праклянеце вечнае нясе —***
***Ад Евы***
***да сучасных нашых еў,***
***Што дзічкі равуць***
***з усіх бліжэйшых дрэў.***

**«Ішла і плакала жанчына...»**

Не першыя гэта слёзы і, відаць, не апошнія...

Слёзы шчырай радасці і веры, змрочнай скрухі і роспачнага адчаю, слёзы прыемных сустрэч і назаўсёдных развітанняў становяцца прадметам асэнсаванага выяўлення ў многіх вершаваных споведзях Г. Каржанеўскай. Падкрэсленай праўдзівасцю, аб'ектывізаваным рэалізмам, бязлітасна-жорсткай фактурнасцю ўражвае замалёўка «Перасяленка». Тут не знойдзеш, бадай, ніводнай фальшывай ноты, ніводнага штучна-паказнога жэсту. Верш засведчыў духоўнае пасталенне лірычнай гераіні паэтэсы, глыбокае ўсведамленне ёю сваёй грамадзянскай місіі і абавязку. Углядаючыся ў канкрэтны драматычны, нават трагічны ў сваёй будзённасці выпадак, Г.Каржанеўская малюе чалавечы лёс:

***Перасяленка —***
***Не ўдава, не паненка.***
***Муж аб'еўся груш,***
***Бо дзіцёнак нядуж.***

***Галоўкі цяжкой не ўтрымаць.***
***Не можа ні сесці, ні стаць.***
***Ці на руках ён,***
***Ці на каленях.***
***А тут яшчэ перасяленне...***
***. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .***
***Добра, што ціхі:***
***Ні крыку, ні енку...***
***Эх, нагаруешся, перасяленка...***

**«Перасяленка»**

Верш выпісаны адрывістымі, афарыстычна-хлёсткімі, як у формах народнага галашэння, радкамі-фразамі, напоўнены глыбокім жыццёвым зместам.

Восень, вясна, прырода — таксама жаночага роду. Згадзіцеся, цяжка было б уявіць паэтычную кнігу жанчыны без пейзажнай лірыкі, без тонкіх прыродаапісальных замалёвак. Трэба сказаць, у вершах Г.Каржанеўскай прыродзе надаецца асаблівае значэнне. Навакольная рэчаіснасць прысутнічае ў іх у прадметна-рэчыўных малюнках, стэрэаскапічных карцінах, жывапісных мазках. Прычым, чароўныя пейзажныя замалёўкі хораша пераплятаюцца тут з уласна эмпірычнымі адчуваннямі гераіні, утвараючы цікавыя па сваёй прыродзе сінкрэтычныя палотны. Тут звыкла-будзённыя рэаліі жаночага жыцця — мілыя сэрцу ружы, расквітнелы кактус, нешчаслівая груша-дзічка.

***Паспела герань расцвісці,***
***А кактус***
***пакуль не збіраецца.***
***Паболела сэнсу ў жыцці,***
***Я знаю, куды мне ісці.***
***Чаму ж перашкоды***
***страчаюцца?***

**«Паспела герань расцвісці...»**

У багатых і разнастайных праявах прыроднага свету лірычная гераіня бачыць шмат якія паралелі са сваім уласным жыццём, душэўнымі перажываннямі і інш. Прырода дапамагае паэтэсе ў яе імкненні да асэнсавання чалавека і яго месца ў грамадстве, абгрунтавання высокага сэнсу людскіх спраў і здзяйсненняў.

Характар светаўспрымання Г.Каржанеўскай вызначаецца сваёй разнапланавасцю, сінкрэтызмам. Ён фарміруецца з самых нечаканых спалучэнняў элементаў мастацкай умоўнасці, канкрэтаў рэчаіснаці, многіх кампанентаў свядомасці нашага сучасніка, чалавека канца XX стагоддзя.

***Нас у траве***
***толькі птушкі пабачаць і сонца,***
***Яшчэ НЛА, можа быць,***
***ды выпадковы анёл,***
***Што прыляцеў не ў пару***
***пры сур'ёзнай гамонцы***
***І далікатненька знік —***
***гэткі імклівы Эол...***

**«Разам»**

Лірычная драма ў трох дзеях «Асенні мёд» уяўляецца самастойнай па сваёй ідэі, праблемна-тэматычным змесце і ўнутранай сюжэтыцы часткай, разам з тым яна арганічна ўпісваецца ў агульную структуру і канцэп-

**Каржанеўская Г. Асенні мёд. Вершы розных гадоў. Мн., "Маст. літ.", 1999. —160 с.*

цыю кнігі. Яна мае сваю, адметную, будову, арыентаваную на ўсталяваныя класічныя традыцыі. Так, у своеасаблівым «Пралогу» гучыць характэрная просьба-прапанова: «Давай адгародзім кавалачак раю, Ўсяго толькі дзялачку, лапік які», дзе будуць «вусны да вуснаў і рукі да рук», дзе ростань будзе «найбольшаю з мук, А горам — адсутнасць сумоўя і згоды». Мара аб такім жыцці, зусім не утапічным, праменіць у розных па сваім фармальным вырашэнні і ідэйна-вобразнай напоўненасці вершах. Перад чытачом паўстае яшчэ адна драма жаночага лёсу. Гатоўнасць дарыць каханне, дзяліць з любым усе выпрабаванні, чаканне шчырай узаемнасці можа ператварыць будзённасць у райскую яву:

*Сказаць і пачуць —*
*гэта шчасце, бадай.*
*Адчуць невыказнае —*
*дар невыказны.*
*Сустрэну пагляд твой,*
*лагодны і ясны,*
*І ў ім патану, як у квецені май.*
**«Аслепнуць на момант...»**

Таямнічая сіла любові вабіць лірычную гераіню. І няхай былі ўжо расчараванні, горкі вопыт разбураных замкаў, яна працягвае верыць у магчымасць незамкнога шчасця: «Гармонія вяртаецца у свет, Дзе столькі без карысці зруйнавана...» (« Я слухаю цябе, як жаўрука...»).

Але звычайная рэальнасць у сваіх штодзённых праявах утрымлівае, на жаль, і нечаканую здраду, і чорную самоту, і боль. Відаць, таму дзве дзеі драмы названы «Рай» і «Апраметная». Ваганні чалавечага жыцця паміж імі спараджаюць духоўныя катаклізмы, вярэдзяць незагойныя раны.

*Суладдзе душ — вялікая раскоша.*
*Хто зведае яго,*
*ужо не зможа*
*Здаволіцца падробкай, сурагатам.*
*Была і я — нядаўна шчэ! — багатай.*

*А зараз — толькі рэшткі.*
*толькі крошкі,*
*Акрыленасці ўчарашняй ні трошкі.*
*Папрокі, высвятленні драбязы.*
*Адчужанасці горкія азы.*
**«Суладдзе душ —**
**вялікая раскоша...»**

Своеасаблівы храналагічны сюжэт драмы прыкметна ўгадваецца ў назвах некаторых вершаў — «Юр'я», «Калядное», «Навагодняе» і інш. Вострае адчуванне драматызму быцця, няспраўджанасці самых светлых мар і надзей усё ж знаходзіць суцяшэнне ў трэцяй, заключнай, дзеі, якая мае назву «Раўнавага». Разуменне высокага духоўнага сэнсу жыцця, усведамленне сваёй місійнай наканаванасці гучыць у яе заключным творы:

*Асенні мёд...*
*Найначай — верасовы.*
*Пазалацелі*
*і загуслі словы.*
*Я нават разабрацца*
*не змагла,*
*Ці кветка я,*
*ці зумкая пчала.*
*Галоўнае —*
*ў сугучнасці са светам,*
*З самой сабою*
*і парою гэтай,*
*З імжою*
*і празрыстасцю нябёс,*
*З усім, што нёс*
*і што ўручыў мне лёс.*
**«Асенні мёд»**

Гаркаватая слодыч жыццёвай мудрасці, хрысціянскі спакой і адвечнае імкненне да праўды, гармоніі і дасканаласці гучыць у вершы, што даў назву драме і ўсёй кнізе. Нездарма, відаць, гэты невялікі твор, як своеасаблівы духоўна-філасофскі падрахунак, у кампазіцыйнай структуры зборніка займае фактычна апошняе месца. Далей — толькі «Эпілог». З маленечкага паэтычнага каліва вырастае сапраўдная кветка — дзіўнай, такой блізкай і патрэбнай нам ідэйнай сілы і эстэтычнага хараства.

Падагульняючы, варта адзначыць, што ў прыродзе паэтычнага таленту Галіны Каржанеўскай значнае месца займаюць публіцыстычны элемент і эпічны пачатак, але яго сапраўдная ідэйна-эстэтычная краса і сіла выяўляецца ў глыбокіх лірычных медытацыях і метафарызаваных споведзях. Нам думаецца, што кніга «Асенні мёд» шмат у чым разлічана на жаночую аўдыторыю, на своеасаблівае сястрынскае душэўнае суперажыванне-паразуменне і спалуку. Але наколькі больш прыгожым і мудрым, вабным і далікатным стане душэўны свет мужчыны, калі над ім будзе лунаць і ўладарыць вобраз такой Жанчыны!.

**Мікола МІКУЛІЧ**

УРАЖАННЕ

# Я дзень згубіў за верш...

Тры гады аддзяляюць творы з першага паэтычнага зборніка Вячаслава Корбута "Цар-алень" (1997) ад яго наступнай кнігі, што выйшла не так даўно ў серыі "Бібліятэка часопіса "Маладосць". "Начны мастак" — так называецца другая кніга маладога аўтара. У ёй В. Корбут змяшчае свае вершы і апавяданні. Зразумела, што лірычныя творы з апошняга зборніка адрозніваюцца ад папярэдніх па ступені майстэрства, якое значна ўзрасло. Вячаслаў Корбут з тых творцаў, каму жыццёвы вопыт на карысць творчаму. Ужо не сустрэнеш недарэчнасцей накшталт "смеласці граматнай" у яго лірычнага героя, ці няўдалага параўнання "маланка, бы шалупка", — гэта ўжо ў мінулым. А вось дадатны вопыт аўтар папоўніў. Бачна, што творчае сталенне аўтара адбываецца на ўсіх узроўнях паэтыкі. Доказам таму вершы "Думка", "З хронікі дня", "У пошуках шчасця" і інш. Менш паэт надае перавагі "зарыфмоўванню", на што хварэў ён у першым зборніку. Больш свежай і кідкай становіцца вобразнасць у многіх вершах:

*Забытых песень мех*
*ускінуць на плячук,*
*Нібы жэтонаў тых,*
*каб пазваніць анёлам.*

Сапраўды, паэту "ўдаецца", відаць, да іх "дазваніцца", бо адкуль тады радкі: "Сябры збіраюць свой багаж — узнёсласць...", або "А ля калодзежа спіць поўнае вядро — з яго адпіў крыху я сілу Бога..."

Вымалёўваюцца крыніцы натхнення паэта: Сяброўства, Каханне, Вера, творчасць папярэднікаў. Сам аўтар прызнаецца ў адным з вершаў: "Чым болей раны, тым глыбей пазнанні..." Гаворка ідзе, зразумела, пра асабісты вопыт, шчырасць паэта падкупляе, але яна, на жаль, не апраўдвае бачныя хібы паэтычнай тэхнікі. Часам парушаецца логіка выказвання, тым больш, што назіраецца гэта ў самых першых радках верша, што даў назву ўсяму зборніку. Зусім не бачна сувязі, акрамя, відаць, глыбока асацыятыўнай у апошніх радках з верша "Маналог". У вершы "Начное" прападае цэльнасць успрымання стылю ад аднаго толькі апошняга радка. Так і хочацца папрасіць: "тщательнее надо...".

Але не забудземся, што ў гэтай кнізе аўтар прадстаўляе і свае апавяданні. Праз мастацкую рэчаіснасць гэтых твораў, праз вобразы галоўных герояў выступае ярка ўсё тая ж шчырая натура самога аўтара. А вось што датычыць ступені майстэрства В. Корбута-празаіка, то ёсць адна парада — не аб'ядноўваць у далейшым вершы і прозу ў адну кнігу: губляецца цэльнасць яе ўспрымання, на якую настройвае назва зборніка "Начны мастак". Сапраўды лепш "згубіць дзень за верш..." у гэтым выпадку. На наш погляд, больш плёну было б у развіцці аўтарскага лірычнага таленту, які прысутны ў гэтай кнізе. Хаця, магчыма, празаічны вопыт таксама прынясе свой плён, але гэта пакажа час. Будзем спадзявацца.

**Наталля СУПЕЙ**

*Вячаслаў Корбут. Начны мастак. Мн., 2000.*

# Дыханне неспакойнай думкі

Як надарыцца шчырая хвіліна боскага святла, я трапляю ў зыркі прамень замілавання, бо датыкаюся ўсёй істотай да чуйнай душы прыроды. Але раптам пужаюся сапраўднасці, стану людскога існавання. Гляджу на твары многіх людзей і не знаходжу ў іх адбітку першароднага хараства. Чалавек не даражыць імгненнем, не адчувае шчасця знаходжання ў прыродзе, у Божым святле, у сваім непаўторным доме. Ён некуды імчыць у нейкім аслупяненні, непрыгожы ў сваім позірку, словах, рухах, паводзінах. Калі і вітаецца, то нехаця, як быццам адбывае павіннае.

А жыццё пралятае. А неба датыкаецца да нас птушынымі крыламі. І нібы перасцерагае: будзьце пільнымі, бо знікае першародная прыгажосць гаючага наваколля, "плачуць сцішана... лясы, схіляючы галовы" —

*... спеў і шум гаёвы,*
*Звяроў гарачыя сляды*
*Вывозяць з лесу назаўжды...*

Якое шчасце, што ёсць яшчэ ў часе быцця чароўныя пралескавыя паляны, адкуль можна паглядзець на неба, дзе дыхаюць зоркі і залятаюць у госці каметы. Якое шчасце, што ёсць душа-пакутніца, здольная адкрыта радавацца і сумаваць, з захапленнем глядзець на Божы свет і выразна адчуваць роднасць (па весніх клопатах) кожнага жывога стварэння.

*Неба закружылася ад птушак...*
*Саракі пад парасонам поўні*
*Развязалі выраю шнурок.*

Або:
*Павылезшы з-пад крылаў маткі,*
*Стаялі ціха на страсе*
*У гняздзе двайняткі-бусляняткі*
*І абсыхалі пакрысе.*

Так і хочацца адасланць да такіх вершаў неназіральнага беднага ўяўленнем школьніка, каб ён нечакана адкрыў прыгажосць на зямлі, у небе і ў сабе.

Гэта я ўзіраюся ў кнігу вершаў паэта з Глыбокага Віталя Гарановіча "Беразвечча", якая выйшла ў свет нядаўна і адрасуецца вучням старэйшага ўзросту. Паэт-настаўнік, ён піша "адозву марам у новыя вякі, Каб не зляцелі марна гады, як скразнякі", і бачыць глыбокі сэнс у сваім штодзённым знітаванні з дзецьмі.

*Колькі дум абуджаю пытаннем*
*адным —*
*Не злічыць!..*

Сваёй назвай кніга засяроджвае думку на тэме балючай памяці

*Ды усё ж не лягчэй дзень пры дні*
*Бачыць бацьку з рукамі ў снах,*
*Хату нашу ў агні, што далей ад дарогі*
*Зноўку складзеным зрубам*
*Зірнула на сонца.*

Чытаю вершы "Бацьку", "У Дзень Перамогі", "Дуб Гётэ", "Плач Бухенвальда", "Ермакоўцы, "Бацькаў успамін" і той, які даў назву кнізе "Беразвечча" ("Ахвяр самотная паляна") і заўважаю: боль ад болю, сляза ад слязы зыходзіць з іх у нашу сённяшнюю яву... Лёсы бацькоў і дзяцей у балючым спляценні

*Бяроз вечалле. Беразвечча,*
*Нібыта ўзведзены курок...*

Можа б, і па-іншаму назваў аўтар кнігу, але "Бяроз вечалле" кажа яму, што адсюль, дзе "лёсу горкага сустрэча", пачынаецца рух думкі...

Чаму "Нібы помнікаў, зрубаў многа Ды прагалаў на месцы хаты"? Зрадзела, знікае вёска.

А тут яшчэ
*...Чорны быль, бы Херасіма,*
Адбыліся "Метамарфозы часу":
*Грыміць, шалее на асфальце*
*"Хэві-метал — распусны крык...*
Хочацца папярэдзіць:
*Асцярожна! У душах яд.*
*Жыць пад небам небяспечна.*

Сапраўды, "Няўпрост застацца чалавекам Сярод здрады, пошласці і зла". Таму як ніколі трэба сёння "Не губіць галінкі радаводу, Першаісным да скanання быць".

*Народзе, прашу: не формай салдата,*
*Не срэбрам адкупнай багатай рукі...*

"Мая просьба" ў Віталя Гарановіча гучыць проста і натуральна знутры яго сумленнай асобы чалавека і паэта:

*Мовы-салоўку, гаворку-бруйю*
*Абарані ад зніштальнай навалы,*
*Уклаўшы у слова душу сваю.*

Просьба набывае сцвярджальны матыў: "Ад бяспомных душа абароніць Мову нашу і род-карані, Дзе свіцае меч гнеўнай Пагоні і Грунвальда слаўтуы дні".

Пакуль ёсць годная душа Беларуса-настаўніка, якая пераліваецца выразным родным словам у другія душы, душы вучняў, прарастаюць дзіўныя, трапныя вобразы паэта-лірыка. У што б ён ні ўглядаўся, думцы хапае дыхання, мелодыі, колеру. У снежні, напрыклад,

*У цёплай шапцы бэз на павароце*
*Скубе сянцо пахучае з вазоў.*

Вясной "...зрываюцца з галінак У саладкі сон гракі". Улетку "...вечар па-старэчы Кладзе туману белую руку На цёплы луг, як на зямныя плечы". А калі "Паплыў павук да восені ў разведку", то неўзабаве "...за дажджамі праразаюць шэры, Размоклы дол Ізноў баравікі".

Уважлівая душа паэта адгукаецца выяўленчай думкай на кожны зрокавы сігнал:

*Скаціўся дзень у сонечным клубку*
*За небасхіл.*
*І вёска, абапёршыся на плоце,*
*Дымком над хатай, як брывом, кіўне.*

Так лёгка гаварыць пра гэту кнігу вершаў, як дыхаць у сасновым водары пасля дажджу.

**Марыя БАРАВІК,**
*г.п. Падсвілле*

НОВАЕ

# Час праз роздум і лёсы

Да свайго чарговага з'езда Беларускі Саюз журналістаў выпусціў кнігу "Публіцысты", укладальнікамі якой з'яўляюцца Л. Екель, Б. Стральцоў і Р. Сакалоўскі. Атрымаўся аб'ёмны том, на старонках якога прадстаўлены 34 аўтары, якія працуюць у многіх вядомых рэспубліканскіх выданнях, у тым ліку ў рэдакцыях газет "Звязда", "Рэспубліка", "Советская Белоруссия", часопісах "Беларуская думка", "Беларусь" і іншых. Тэматыка кнігі шырокая: гэта і расказ пра значных падзеі і знакамітых людзей, і роздум над складанымі маральна-этычнымі праблемамі, і жаданне разабрацца ў той сітуацыі, што склалася ў краіне. І, канечне ж, вяртанне ў пражытае і перажытае.

А такім зместам найперш напоўнены матэрыялы ветэранаў нацыянальнай журналістыкі. Старэйшына сярод іх (і не толькі як аўтар гэтай кнігі, а і як сябра самага масавага творчага саюза) — А. Матусевіч, які нарадзіўся ў 1902 годзе. "Дарога жыцця" — так назваў ён свае нататкі. А. Матусевіч вяртаецца на родную Лагойшчыну, прыгадвае свой шлях у журналістыку, расказвае пра падпольную дзейнасць у гады Вялікай Айчыннай вайны. Поруч змешчаны і матэрыялы іншых ветэранаў: "Ёсць у нас два берагі" І. Міцкевіч, "Аднойчы і на ўсё жыццё" А. Коласа, "Чытач — сябра газеты" В. Пыжкова, "Самая вялікая радасць" В. Панамарова, "Салдацкія гімнасцёркі" М. Шыбаліса...

Знаёмячыся з кнігай, лёгка ўпэўніцца, якія праблемы хвалююць сённяшняе пакаленне беларускіх журналістаў, прытым прадстаўнікоў розных узростаў — ад тых, хто набыў важкі вопыт, да тых, хто яшчэ спасцігае сакрэты майстэрства. І тут добрага слова заслугоўваюць нашы суседзі па рэдакцыйным калідоры — супрацоўнікі часопіса "Беларусь". Калі б сабраць іх матэрыялы разам, атрымаецца б зборнік у зборніку.

Важкасцю зместу, глыбінёй роздуму вызначаюцца згадкі аб пройдзеным шляху галоўнага рэдактара часопіса "Беларусь" А. Шабаліна. Яго споведзь "Шчасце ў імкненні да шчасця" запісала адказны сакратар "Беларусі" В. Ждановіч, а нагодай для гэтага стала 20-годдзе працы А. Шабаліна на пасадзе галоўнага рэдактара. В. Ждановіч прадстаўлена і як аўтар публіцыстычных разваг "Свет непазбежнасці", яна па-свойму падышла да такой праблемы ў жыцці чалавека, як старасць. Дзякуючы І. Калюце ("Сага пра мага") можна бліжэй пазнаёміцца з вядомым фотамайстрам, супрацоўнікам гэтага часопіса В. Жыліным. Тут жа і матэрыялы А. Гібкоўскага "Анатомія пакаленняў", "Два жыцці трэнера... і дзве Наташы" І. Ждановіча. А яшчэ цудоўнае эсэ Я. Сіпакова "Коні", напісанае і паэтычна-ўзнёсла, і роздумна-засяроджана, і па-філасофску аналітычна.

Калі гаворка зайшла пра зборнік у зборніку, дык на гэта прэтэндуюць і матэрыялы Л. Екеля "Мой Храм". Л. Екель прызнаецца: "Мая царква, мой Храм — такія вось людзі, як героі маіх нарысаў. Яны ніколі не адвернуцца ад чужой бяды. Яны стануць поруч, гатовыя памаліцца за цябе, падставіць і плячо, і душу". А расказвае Л. Екель пра вядомых фотамайстроў М. Ананьіна і В. Аркашава, прапануе маналогі з народным артыстам СССР М. Яроменкам, згадвае Я. Пархуту, вяртаецца ў той час, калі рабіў першыя журналісцкія крокі.

У сценах гэтага, умоўна кажучы, журналісцкага Храма, годна адчуваюць сябе галоўны рэдактар часопіса "Беларуская думка" У. Вялічка ("Ці спавітая далечы густым туманам?"), рэдактар аддзела адукацыі і маралі гэтага выдання Л. Якавенка ("Быць ці выжыць — вось у чым пытанне"), Л. Юнчык ("Беларусь — у сэрцы нарвежскай настаўніцы"), Н. Кернога ("Бляск і горыч жаночых ілюзій"), С. Шаўцоў ("Месяц у вёсцы"), П. Суцько ("Свяціззяй, мая "Заря") і іншыя. Змешчаны і два вершы: "Роднай газеце" Р. Сакалоўскага і "Вальс для "Вячэрняга Мінска" М. Ільюшэнкі.

Адкрываецца ж кніга артыкулам Б. Стральцова "Розумам і сэрцам", аўтар якога пісьменнік, журналіст, выкладчык факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта разважае над тым, што ж такое журналістыка і якая вялікая роля належыць ёй у сённяшнім жыцці дзеля кансалідацыі грамадства.

**Пятро РЫЖАКОЎ**

Людміла ДРОЖЖА

# ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

АПАВЯДАННЕ



ДУМАЮЧЫ пра свой летні адпачынак, Ларыса ўсё больш схілялася да таго, каб паехаць зноў туды, на маляўнічы бераг Нёмана, у той утульны пасёлак, дзе яна ўжо два гады запар давала сабе адхланне ад абрыдлых клопатаў у сценах задушлівай фізічнай лабараторыі, маладзела душой і целам. Адно, што псавала ўспамін, — нешанцунак з кватэрамі. Гаспадары першай былі вельмі ж ужо крыклівыя, нават між сабою размаўлялі гучна, як гэта робяць глухаватыя людзі. На другі год Ларыса пасялілася ў цёткі Волькі, але тут яе напаткала іншая прыкрасць. Цётка Волька акружыла яе такою ўвагаю, такім клопатам і дабрынёю, прыняла як дачку, што Ларыса расчулілася, даверылася ёй ва ўсім, і за гэта паплацілася. Завёўся там у Ларысы кавалер. Дык не паспеў ён з'ехаць, як добрая і спагадлівая цётка Волька разнесла па ўсім пасёлку ўсё, што змагла пачуць з іх шэптаў і растайных гаворак. Ларысе стала да гаркаты прыкра ад гаспадынінай ці то подласці, ці дурноты, ці бог ведае якіх яе неспазнаных якасцей.

У трэці свой прыезд Ларыса спынілася ў адной сямейнай пары, блізкай ёй узростам. Гаспадыня сям'і Каця, прадавец мясцовага універмага, з прыхаванай насцярожанасцю аднеслася да разведзенай гараджанкі, выдзеліла ёй летні пакой, які меў свой асобны ўваход. Гаспадар, фельчар мясцовага медпункта Андрэй, выглядаў сціплым, маўкліва-назіральным чалавекам.

“Нехлямяжы нейкі, — падумала Ларыса. — З тых, што ў жонкі пад абцасам”. Аднак жа яе ўспрыманне гаспадара мянялася. Людзі лічылі яго інтэлігентным, а ў дадатак — і малайцаватым чалавекам, паважліва называлі Андрэем Фёдаравічам. І ў дачыненнях з васьмігадовым сынам Сяргейкам ён праяўляў тую дзіцячую прастадушнасць, якая ўласціва людзям мяккім, далікатным. Іншым жа разам Андрэй выглядаў меланхалічным, замкнёным — і тады Ларысе здавалася, што не так і проста адразу, з ходу распазнаць яго характар.

Праз колькі дзён свайго пастаяльства на новай кватэры Ларыса пачула, як позна ўвечары Каця прыкрыкнула на мужа:

— Ты чаго не лягаеш? Зноў творчая гарачка?

Ён нешта ціха сказаў ёй, і Каця не то раздражнёна, не то на вядомым толькі ім дваім “пяшчотным жаргоне” адказала на не пачутую Ларысай рэпліку:

— Праціўная морда!

Ларысу ўразілі гэтыя Каціны словы, сказаныя, да таго ж, неяк занадта гучна, як бы з разлікам на чужыя вушы. Здзівіў і напамін пра творчую гарачку. Якую? Ён нешта піша, ці што?

***Бяздомны не агорае жытла, —***
***Разлучаны не выб'ецца з самоты.***
***Пісаць пачне і будзе без ахвоты***
***Бадзяцца між прысадаў ля святла***
***Па залацістых россыпах лістоты...***

Чамусьці ўзгадаліся гэтыя радкі Рылькe. Чаму — Ларыса не магла вытлумачыць. Ёй захацелася выйсці з пакоя ў сад. Проста так выйсці, пастаяць там. Аднак жа неўзабаве спаймала сябе на думцы, што выйшла, каб цішком падгледзець, што за творчая гарачка ў гаспадара.

У асветленым акне, што выходзіла ў сад, нічым не завешаным, яна ўбачыла схіленую Андрэеву галаву. Ён нешта пісаў. На хвіліну ён падняў галаву, зірнуў у вакно. Ларыса спалохана адскочыла ад акна, хоць паспела зразумець, што ён не мог яе заўважыць: ён быў сам-насам з сабою, са сваімі думкамі, аднаму яму вядомымі мроямі. І Ларысе стала сорамна падглядваць за чалавекам, які вось так цалкам захоплены нечым сваім і не дапускае нават думкі, што нехта акурат у гэтыя хвіліны віжуе за ім. Яна ж, атрымліваецца, якраз віжуе — Ларысе прыйшло гэтае, больш ганебнае слова, а не прасцейшае — падглядвае, ці нават сочыць...

Гаспадыня, хоць нібыта выяўляла сваю непрыязнасць да развядзёнак, тым не менш па-бабску гарнулася да Ларысы — мо для пачатку, каб паказаць кватарантцы сваю перавагу над адзінокай жанчынай, і, як падалося Ларысе, з дурной бабскай замілаванасцю расказала, што рана выскачыла замуж, але не шкадуе, бо ў сям'і — яна галоўная, верціць сваім Андрэем як уздумаецца.

— Ён у мяне пакладзісты, — хваліла мужа ці проста хвалілася Каця. — А ён жа ў мяне, каб вы ведалі, пісьменнік, а не фельчар — і ўсё тут! Ужо не раз друкаваў у раённай газеце і вершы, і апавяданні...

“Ага, дык ужо і не праціўная морда, — пасміхнулася сама сабе Ларыса. — Ён у цябе пісьменнік, а не фельчар...”

Нечакана дадала ўжо са злосцю, але па-ранейшаму не ўголас: “Раўнуеш ты свайго чалавека! І да жанчын, і да вершаў, і проста да белай паперы. Бо ты сама — не такая! Ты ўсяго толькі начальніца кастрюль...”

Ларысе не хацелася ніякіх кампаній, а тым больш вось такіх душэўна-даверлівых жаночых размоў. Яна падумала, што добра было б звесці штодзённыя зносіны з Кацяй да некалькіх простых фраз, — так будзе спакойней.

Прытым надвор'е, што ўсталявалася з пачатку лета, грэх і сорам было сядзець у хаце. Лета лагодна песціла жанчыну сваёй цёплай далонню, рэчка несла яе разамлелае цела далёка ад пасёлка, адкуль Ларыса вярталася дадому пешкі. Асалода бесклапотнага існавання ўлівалася ў кожную яе клетачку. Забываліся ўсе вялікія і малыя крыўды, хітрадзействы знаёмых, прэтэнзіі сваякоў. Усе душэўныя раны забываліся, рабіліся нязначнымі, дробязнымі. Цешачыся шчадротамі лета, яна думала пра пераменлівы светапарадак, пра тое, што, магчыма, дзесьці на іншай, вельмі далёкай планеце нехта таксама радуецца святлу і цяплу, радуецца на ўвесь росхліст душы, бо ведае, што часу на гэта адведзена мала, — як і ёй: тут, у гэтай райскай мясціне, яна прабудзе ўсяго чатыры тыдні, аніяк не болей.

За два першыя тыдні ў хаце Сямашкаў гаспадар тры разы запрашаў Ларысу на юшку з рачных карасёў. Юшка была такая духмяная, што, адмаўляючыся ад запрашэння, Ларыса непрыкметна глытала слінку. І ўсё ж першыя два разы яна ветліва адмовілася — не хацела насцярожваць раўнівую Кацю. А за трэцім разам васьмігадовы Сяргейка надта ж ужо запрашаў яе, ды і Андрэеў позірк пасылаў маўклівы дакор: ну што ж ты грэбуеш нашай кампаніяй? Адмовіцца і гэтым разам было ўжо няёмка, амаль непрыстойна. І яна пагадзілася, далучылася да кампаніі бацькі з сынам. Яны ўтраіх без прычыны рагаталі, наўмысна смешна, шумна студзілі юшку, “прыпраўлялі” яе анекдотамі, — балазе, не было Каці, затрымалася на рабоце. У прыемнай, лёгкай размове прайшлі гадзіны дзве, Ларыса распытвала Андрэя, дзе можна назбіраць лекавых траў. І Андрэй, і малы Сяргей гатовыя былі ёй не проста расказаць, але і скласці план, карту лекавых мясцін. Пасля гэтай нязмушанай вясёлай вячэры Ларыса і падумала ўпершыню, што за Андрэевай сціпласцю, напэўна, хаваецца здольнасць да глыбокіх пачуццяў і роздуму.

Назаўтра ж Ларыса выправілася збіраць лекавыя травы. Выбралася пасля абеду. Разамлелая ад спякоты, знайшла ў лесе збаўленне. Тут дыхалася лёгка і вольна. І хто мог падумаць, што акурат гэтым спякотным днём, калі прырода проста млела ад гарачыні, нешта ў ёй раптоўна пераменіцца? Сіноптыкі не прадказвалі аніякае навальніцы — ні па ўсходзе, ні па захадзе ні кроплі!

Але сіноптыкі самі па сабе, а прырода ўсё рашыла па-свойму. Выходзячы з лесу з поўнай торбай зёлак, Ларыса ўбачыла памутнелае неба. Да пасёлка было кіламетры чатыры, а па небе з поўдня і поўначы сунуліся, насустрач адна адной, цёмна-сінія хмары. Нечакана налятаў парывісты вецер — нізкі, дольны. Ларысе стала страшна адной сярод поля. Дабегшы да кустоў ля дарогі, стулілася за імі. Вецер шалеў. Хмары сустрэліся і як бы “наехалі” адна на адну. Раптам усё закруцілася. Жахнула асляпляльная маланка, недзе зусім блізка, як над галавою, бо тут жа лясну ў аглушальны гром. А тады знячэўку пасыпаліся белыя гарошыны граду, а пасля шыбануў лівень.

Калі праз хвілін пятнаццаць усё скончылася, на Ларысе не было сухой ніткі...

Убачыўшы мокрую, усю ў дрыжыках кватарантку, малы Сяргей ўсклікнуў:

— Цёця Ларыса, вы — як русалка!

— І чаго было хадзіць там да самай навальніцы? — высунула галаву з расчыненага акна Каця.

— Хутчэй пераапранайцеся і выпіце гарачай гарбаты, — Андрэй змераў Ларысу ўстрывожаным позіркам, у якім паблісквала ласкавая іскарка.

Ларыса, бы паслухаўшыся, хуценька пераапранулася, уключыла чайнік. Успомніла Андрэеў позірк і — унутры пацяплела, як быццам падбадзёрыла сябе цёплымі глыткамі яшчэ не нагрэтай гарбаты.

Звечарэла. Ларыса выйшла на двор прасушыць, падставіць ветру яшчэ мокрыя валасы. Свежаю прыемнай ахалодаю дыхаў летні вечар. У вымытых дажджом галінах дрэў лена падавалі голас птушкі — уладкоўваліся на начлег. У гаспадаровай палове хаты выключылі тэлевізар, і стала зусім ціха. У акне, што выходзіла ў сад, засвяцілася настольная лямпа — гэта Андрэй зноў схіліўся над сталом.

Ларыса падышла да брамкі. У суседнім двары затупалі, загрукацелі ў дзверы. Сабачы брэх заглушыў галасы, але ўсё ж Ларыса пачула:

— Валацугам не трэба адчыняць! Прыстойныя людзі гэтак позна не ломяцца ў хату!..

У вячэрнім змроку да Ларысы ад таго двара наблізіліся два сілуэты з веласіпедамі. Убачыўшы Ларысу ля брамкі, адзін з іх падаў голас:

— Мо ёсць якая старызна пераапрануцца, га, гаспадыня? Мы з суседняй вёскі. У лесе дровы нарыхтоўвалі. Вымаклі. Трохі ачахне адзенне, дый пойдзем дадому.

— Я не гаспадыня, — развяла рукамі Ларыса.

Пачуўшы галасы, з хаты выйшаў Андрэй, пазнаў мужчын з суседняй вёскі, запрасіў у двор.

Калі начныя госці пераапрануліся, усе ўчатырох селі ў садзе за столікам і пілі гарбату. Мужчыны пасміхаліся з баязлівага суседа, з яго пагроз выклікаць міліцыю, прыгадвалі розныя жыццёвыя выпадкі. Ужо можна было ўстаць і разысціся, але кожнаму хацелася прадоўжыць імгненні ціхай начной гаворкі. Ларыса адчувала: гэта яе прысутнасць трымала мужчын, дадавала таямнічасці гэтаму чароўнаму летняму вечару. Мужчыны навыперадкі пнуліся прыгадаць якую-небудзь незвычайную гісторыю, але са свайго жыцця нічога яркага не прыпаміналася. Тады вышэйшы з іх, якога Андрэй называў Кастусём, сказаў гаспадару:

— Ты ў нас, Фёдаравіч, людзей лечыш, у вялікім горадзе жыў, многа чаго наслухаўся. Раскажы нам што-небудзь пра любоў... На развітанне...

— Пра любоў? — усміхнуўся Андрэй. — Ёсць такая гісторыя. Яна мяне ўразіла летась, на курсах у Мінску. Адзін стары доктар расказаў...

Андрэй памаўчаў, як бы прыкідваючы ў думках, з чаго пачаць.

— Давай! — прыспешыў яго Кастусь.

Андрэй правёў далонёю па твары і загаварыў:

— Той доктар доўгі час працаваў у адным з сочынскіх санаторыяў. Якіх толькі людзей ён ні пабачыў! Аднойчы ў санаторый прыехала адпачываць адна жанчына. Яна адразу кінулася ў вочы — была надта ж прыгожая. Такая красуня была, што нават наш доктар забыўся на свае сталыя гады. І жанчына была немаладая — за пяцьдзесят пераваліла. А знешне? Ніхто і нізавошта не даў бы ёй столькі гадоў. Мужчыны роем віліся ля яе. А яна ветлівая з усімі і ўсё тут. А па дакументах — незамужняя... Доктар западозрыў тут нейкую тайну. І аднойчы далікатна падступіўся да пацыенткі: маўляў, чаму яна халодная да радасцяў жыцця? Жанчына сумна ўсміхнулася і расказала пра сябе. Нарадзілася яна ў вялікім горадзе на Волзе, у шчаслівай сям'і. І жаніх знайшоўся — слаўны хлопец, аднакурснік па інстытуце. Каханне было ў іх — усім на зайздрасць. Лёс нібы адарыў іх палатном шчасця — бярыце, выкроівайце ўсё, што вам трэба для жыцця.

Пасля апошняга экзамена ў інстытуце шчаслівая пара з кампаніяй паехала на “маторцы” па Волзе. У дзяўчыны, назавём яе Соняй, на шыі матляўся прыгожы шыфонавы шарф. Калі “маторка” набрала хуткасць, вецер сарваў шарф. Спрабавалі падчапіць яго вяслом — не атрымалася. Шарф панесла па цячэнні. Тады прыгажуня дакорлівым позіркам абвяла кампанію:

— Няўжо тут няма мужчын, якія б дасталі мой шарф?

Каханы з прысаромленым тварам кінуўся за борт лодкі. Яго закруціла вірлівая плынь... На трэці дзень цела прыбіла да берага... Жыццё дзявочае пацямнела і стала непатрэбным. Яна вырашыла пранесці крыж сваёй віны да канца: маўляў, не мае права на шчасце кахання, мацярынства... “Мы сустрэнемся там, — сказала прыгажуня доктару, — я ведаю, што мой адзіны чакае мяне...”

Андрэй змоўк.

— Сумная гісторыя, — ціха вымавіў Кастусь. Ён шукаў зачэпку, каб яшчэ крыху пасядзець, але напарнік штурхнуў яго пад бок. Мужчыны ўсталі.

Ларыса з Андрэем выйшлі правесці іх на вуліцу. Мужчыны развіталіся.

— А вы добры апавядальнік, — сказала Ларыса Андрэю, вяртаючыся з ім да хаты ад брамкі. Яна чамусьці баялася павярнуцца да яго тварам. Узялася была за брамку і аж уздрыгнула, калі раптам адчула, што ягоная цёплая далонь мякка легла ёй на галаву. Ён прыўзняў пасму яе валасоў, паварушыў іх гарачынёю свайго дыхання, нечакана павярнуў да сябе яе галаву. Яна не пасмела паглядзець яму ў вочы. У Ларысы аслаблі ногі. Яна адчувала, што траціць волю, і калі яшчэ хвіліну застанецца ля брамкі — адбудзецца тое, да чаго хіліў, вёў сённяшні вечар...

Рэзкім рыўком яна адчыніла дзверы і ўляцела ў свой пакой. Бухнулася на ложак, прыкрыла галаву падушкай і ляжала скурчаная, нібы хацела сціснуць у душы нешта падобнае на свежую, яшчэ кволую кветачку, што вымкнула неспадзявана, сагрэтая не сонцам — гарачым позіркам...

Раніцай яна спешна развіталася з Кацяй і з'ехала ў горад.

Праз месяц, калі сляды летняга адпачынку зацерушылі, сцерлі звычныя клопаты і мітусня, Ларысе раптам, без дай, як кажуць, прычыны, захацелася зайсці ў бібліятэку і ўзяць падшыўку раённай газеты, якую яна сяды-тады брала ў рукі ў час адпачынку. Жаданне было настолькі моцнае, што яна нават не супраціўлялася яму.

Перагарнула Ларыса адну газету, другую, а ў трэцяй на чацвёртай старонцы ўбачыла яго імя. Андрэй надрукаваў апавяданне пад назваю “Пасля навальніцы”. Адразу чытаць не стала. Адвяла вочы ад газеты, падумала: ці не пра той вечар паслянавальнічны, пра гарбату ў начным двары? Пачала чытаць і — усміхнулася: усё ў ім было не так. Герой апавядання, малады ляснік, ужо тры гады тайна закаханы ў прыгожую гараджанку, якая летам адпачывае ў іх мясцінах. Ніводная жыццёвая акалічнасць не абяцае збліжэння, прызнання, мройнай пяшчоты. І вось на табе — выпадковая сустрэча ў лесе пасля навальніцы. Яны бягуць разам у леснічоўку. Вільготны лес дорыць ім сваю свежасць. Патрэскваюць дровы ў печцы, сушыцца адзенне. Два чалавекі прызнаюцца, што чакалі, жылі чаканнем гэтай хвіліны, калі абавязкова апынуцца на адной дарозе, што душа аднаго адчувала роднасць другой душы. Бо калі няма ў жыцці гармоніі і справядлівасці, дык навошта тады хадзіць па гэтай зямлі?

“Вільготны лес, патрэскваюць дровы ў печцы, сушыцца адзенне, пачуццёвым агнём гараць вусны, рукі, вочы”.

“Ну-ну, сачыняй, — нават з нейкай раздражнёнасцю Ларыса адсунула газету. — І не пабаяўся Кацінай рэўнасці... Няцяжка прыдумаць сюжэт, — ужо не моўчкі кпіла, а бурчэла сабе пад нос. — У жыцці ўсё не так... У жыцця свая, непахісная праўда...”

Нечакана ёй успомнілася гісторыя з жанчынай, пра якую Андрэй расказваў ноччу пасля навальніцы. Вось гэта сюжэт! Потым успомніла, як прыўзняў Андрэй яе пасму валасоў і дыхнуў на іх гарачынёю...

Яна выйшла з бібліятэкі і падалася ў парк. Хацелася, каб гэта быў лес і каб з ёю адбылося тое, што ў ягоным апавяданні. Хацелася плакаць...

“Разлучаны не выб'ецца з самоты”, — узгадваліся радкі Рыльке, і яна спрачалася з імі, пярэчыла ім: “Выб'ецца, выб'ецца!”

Падумала раптам: ці адважыцца яшчэ калі-небудзь паехаць у той пасёлак? У яе не было адказу...



у крыві. Сапраўды, у нас спектаклі ідуць і па дзесяць гадоў, ёсць такія, дзе якую-небудзь ролю іграю я адзін. І заўсёды выходжу на сцэну, кожны раз хоць што-небудзь змяняючы ў вобразе. Я заўсёды адчуваю дыханне залы. Гледачы бываюць розныя. Гэта ж не робаты: націснуў на кнопку — заапладзіравалі. Гледачы дрэннымі не бываюць. І калі глядач мяне не разумее, значыць гэта я нешта не данёс. Можна дастаць да струначкі сэрца кожнага ў зале. Таму, калі адчуваю яе магнетызм, адбываецца кантакт, я пачынаю жыць на сцэне і забываю, што іграў гэтую ролю безліч разоў.

**— Як вы любіце адпачываць?**

— Шчыра кажучы, апошнія тры гады я зусім не адпачываю. Менавіта тры гады таму ў мяне ўзнікла ідэя бенефісу, а калі ў мяне ёсць ідэя, я не магу спакойна адпачываць. Увогуле, люблю адпачываць дома, на канапе, гледзячы добры фільм — я многа бяру адтуль.

**— А якія фільмы вы называеце добрымі?**

— Я вельмі люблю рэжысёра Фрэнсіса Копалу. Пераглядзеў па некалькі разоў усе часткі фільма "Хросны бацька" — зусім не таму, што гэта баявік. Мне падабаюцца акцёры Аль Пачына, Марлон Брандо, Брэд Піт, Энтані Хопкінс, Джэк Нікалсан. Для мяне было ўзрушэнне ўбачыць фільм "Палёт над гняздом зязюлі" Мілаша Формана з Джэкам Нікалсанам у галоўнай ролі Увогуле, люблю прафесійныя фільмы добрыя псіхалагічныя баевікі, дэтэктывы але абавязкова **добрыя**, дзе іграюць выдатныя артысты.

**— Музыка якіх кампазітараў адгукаецца ў вашым сэрцы?**

— Я люблю Дунаеўскага, Мілюціна — гэта з савецкіх кампазітараў. Канешне, Кальмана, Легара, Уэбера... Мне падабаецца музыка Уладзіміра Кандрусевіча, вельмі таленавітага чалавека, на жаль, не цалкам запатрабаванага. Я — удзельнік яго мюзіклаў "Джулія", "Шклянка вады". І вельмі ўдзячны яму, што ён дзеліцца са мной сваімі новымі творчымі ідэямі.

**— У размове з вамі я неаднойчы пачула, што для вас нічога выпадковага няма...**

— Сапраўды, хаця раней не верыў у гэта... Аднойчы мы былі на гастролях у Калінінградзе. Там я сустрэў Марыну Барысаўну. На першым жа спатканні я расказаў ёй усё пра сябе. Я ёй вельмі ўдзячны, што яна дзеля мяне кінула ўсё і паехала ў Мінск. Прайшла праз шматлікія цяжкасці, і цяпер яна вельмі паважаны чалавек у тэатры. Пасля таго, як я яе сустрэў, пайшоў у царкву і сказаў: "Божа, напэўна, гэта лёс". Я падзякаваў Госпаду і пахрысціўся там. Пасля я пачаў аналізаваць сваё жыццё: як я вучыўся, як трапіў у тэатр... Сапраўды — лёс. І тое, што я сустрэў Марыну Барысаўну, безумоўна! Мне пашчасціла.

**— Памагай вам Бог.**

**Гутарыла**
**Вольга НАВАЖЫЛАВА**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

ТВОРЧАСЦЬ

# "Развагі з нагоды..."

Вось ужо шосты год у Беларусі праходзяць міжнародныя дзіцячыя пленэры, арганізаваныя Беларускім саюзам мастакоў. Пленэры прысвечаны відным дзеячам культуры ўсяго свету.

Дзеці працуюць, знаёмяцца з гістарычнымі, культурнымі, архітэктурнымі помнікамі Беларусі. Па выніках пленэру праходзіць выстава ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі БСМ, выдаецца каталог пленэру, які не мае аналагаў у свеце. На пленэр запрашаюцца дзеці з розных краін ад 8 да 16 гадоў. Сёлета пленэр быў прысвечаны Францішку Скарыне і праходзіў на яго радзіме ў г. Полацку.

Пленэры не маюць нічога агульнага з практыкай навучэнцаў мастацкіх школ, бо асноўная задача пленэру — гэта творчасць, а не вучоба. Дзеці рэалізуюць тое, што ўзнікае ў іх уяўленні па меры спазнавання навакольнай прыроды, архітэктуры, гістарычных падзей, музыкі, перажыванняў.

Усяго за 8 дзён, якія ўдзельнікі пленэру правялі ў Полацку, яны паспелі пазнаёміцца з саборамі і цэрквамі горада, пабываць у музеях і друкарні. Аднак яны распісалі і дзве сцяны ў доме для сірот, дзе іх пасялілі; правялі акцыю разам з мясцовымі дзецьмі і распісалі гарадскую сцяну; напісалі кожны па 3-4 работы, і, самае галоўнае, стварылі рукатворную графічную кніжку, прысвечаную Францішку Скарыне і гораду Полацку. Кнігу ўрачыста падарылі музею кнігадрукавання г. Полацка. Кніга зроблена друкарскай фарбай, пераплецена ў Полацкай друкарні, кожная з работ у ёй унікальная.

Калі гаворыцца пра вынікі, нікому не цікавы рабочы працэс, а ён доўжыцца год. Роўна гэтулькі трэба, каб стаць у план любой бюджэтнай арганізацыі на наступны год. Паралельна ідзе работа над каталогам папярэдняга пленэру. У нас ёсць пастаянныя партнёры, якія разам з Саюзам мастакоў былі ля вытокаў гэтай міратворчай культурнай акцыі. Гэта перш за ўсё Беларускі дзіцячы фонд пад кіраўніцтвам Ліпскага. Якое свята без падарункаў? Менавіта іх і дорыць гэты фонд. Матэрыялы аплачвае Фонд Міру г. Мінска. Пастаянна з намі Міністэрства адукацыі, але яго рашэнні не заўжды выконваюцца. То аўтобус групе не пададуць, і мы ўвесь дзень ходзім па горадзе і ў спёку, і ў дождж, баючыся спазніцца на запланаваныя сустрэчы. Але яшчэ горш, калі спазняюцца грошы... як было гэтым разам. Быццам з міністэрства "пайшлі", а да Полацка не "дайшлі", недзе згубіліся ў казначэйстве. На 20 чалавек дзяцей цяжка знайсці грошы на сціплае, нармаванае харчаванне, хоць яны былі запланаваны яшчэ год таму. А як маглі служачыя аддзела адукацыі г. Полацка, і не дачакаўшыся пераведзеных грошай, прыходзіць перад сняданкам у школу і не пускаць дзяцей у сталоўку. Дзейснай, на жаль, аказалася толькі тэлеграма Прэзідэнту, грошы адразу прыйшлі, нас і кармілі двайнымі порцыямі — трэба ж расходаваць грошы... дзякуй спонсарам, яны аплацілі і прадукты, і фарбы. Фірма "Кодак — Белая вежа" выдзеліла і плёнкі, і фотаапарат, рэстаран "Араб Снек" карміў дзяцей абедамі, рэстаран "Бергама", як і кожны год, на прэзентацыю выставы ў Палацы мастацтваў прадаставіў дзецям смачныя пірагі і піцу, а фірма "Кока-Кола" — свае фірменныя напоі на ўвесь перыяд пленэру.

Мы запрасілі на выставу тэлебачанне і прэсу — але мала хто адгукнуўся. Мне здаецца, што гэта важна, калі падзея робіцца традыцыяй. І тыя, хто не змог трапіць сёлета на пленэр, прымуць удзел у наступным годзе. Яшчэ не вылучана асоба, якой будзе прысвечаны будучы пленэр, месца яго правядзення. Але штогод мы чакаем не дапамогі, а праблемы.

Калі пленэры былі прысвечаны Экзюперы або Чурлёнісу, у Міністэрстве культуры пыталіся, чаму не беларусу? Калі Казіміру Малевічу — чаму не класіку?

У гэтым годзе мы звярнуліся да хрэстаматыйнай фігуры беларускай культуры. Але ні капейкі не ўклала Міністэрства культуры і ў гэтую акцыю. Непатрэбны ім гэты пленэр, свой зрабілі — Рэпіна.

Як можна дзяліць дзяцей на сваіх і чужых, як можна дзяліць мастацтва на ўгодныя і няўгодныя імёны?!

Я прашу адгукнуцца людзей, якім неабыякавая нацыянальная культура, лёс таленавітых дзяцей, якія здольны памагчы пабудаваць музей дзіцячай творчасці, змогуць накарміць удзельнікаў наступнага пленэру, змогуць прадаставіць для іх аўтобус. Паверце, не такія ўжо гэта вялікія выдаткі... Але гэта будзе акцыя павагі да сябе, таму што асоба і талент — гэта дар Бога і іх варта падтрымаць.

І таму я ганаруся, што дзіцячы міжнародны пленэр існуе.

**Ірына КУЗНЯЦОВА,**
**мастачка, рэферэнт Беларускага саюза мастакоў па працы з моладдзю**







ВЫСТАВЫ

# Шчодры пэндзаль

Санкт-Пецярбургскі мастак Абрам Рабкін, да 75-гадовага юбілею якога ў Музеі сучаснага мастацтва днямі адкрылася персанальная выстава, нарадзіўся і вырас на Беларусі. Прыцягненне роднай зямлі на працягу многіх гадоў увасабляецца пад шчодрым пэндзлем майстра ў сакавітыя палотны, поўныя роздуму пра лёс чалавека, пра супярэчлівы час, пра веліч духу сціплых працаўнікоў і абаронцаў радзімы, пра прыгажосць усяго жывога. Вось сядзіць у скрусе старая "Несцерыха", вось заглыбілася ў думкі "Краўчыха", вось з'едліва паглядае рашучая "Мнуха"... У кожнага свой характар, свой шлях, свой свет, але ўсе яны паяднаны тонкім псіхалагізмам і эмацыянальнай выразнасцю. Цікава адзначыць, што сярод шматлікіх работ, выстаўленых у залах галерэі, няма аніводнай, прысвечанай Паўночнай Пальміры. Душа і сэрца належаць адно гораду юнацтва — Бабруйску, з якім звязана ўсё самае цёплае і светлае ў жыцці: рукі маці, галасы сяброў, першыя перамогі і першыя слёзы. Партрэты і пейзажы Рабкіна прываблiваюць глыбіннай экспрэсіяй, асабіста аўтарскім стаўленнем да наваколля, што стварае адпаведны лірычны, часам самотны настрой. Мастак нібы спяшаецца адлюстраваць тое дарагое, што назаўсёды застаецца ў мінулым, з чым трэба належным чынам развітацца, бо яно знікае назаўжды: стары дом і падворак, вуліцы і завулкі любімага горада, сады ў буйной квецені бэзу і флоксаў, лад жыцця, што вызначаўся трапяткімі надзеямі і светлымі спадзяваннямі. Абрам Рабкін увесь час нібы існуе ў "прасторы Бабруйска", у той таямнічанепаўторнай паэтычнай субстанцыі, якая, уласна кажучы, і робіць мастака мастаком. Часцяком на яго палотнах можна пабачыць вокны старыя і не надта, расчыненыя і



прыкрытыя, упрыгожаныя кветкамі і застылыя ў суровай тузе. Майстар нібы глядзіць у будучыню праз задуменне і развагі дня мінулага.

Аднойчы ён пачаў пісаць прозу. Успаміны дзяцінства раптам паклаліся на паперу, даўнія падзеі пераасэнсаваліся з вышыні жыццёвага вопыту, з пункту гледжання выпакутаванай мудрасці. Так нарадзілася кніга "Уніз па Шасэйнай", для якой ён сам зрабіў вокладку і малюнкі і дзе знайшлі месца рэпрадукцыі з яго карцін. Бацькі і родныя, знаёмыя і сваякі, якіх даўно паглынула плынь часу, завядзёнкі даваеннага Бабруйска ажылі, паўсталі ва ўсёй сваёй своеасаблівасці і адметнасці, напоўнілася гукамі і фарбамі правінцыйнае мястэчка. Яны глядзяць на нас праз смугу дзесяцігоддзяў, узіраюцца ўдалячынь кожны праз сваё "акно", праз сваё светаразуменне і светаўспрыманне. Яны яшчэ не адчуваюць подыху грозных і трагічных змен, што разбураць звыклае жыццё, утульны пакой роднага гнязда, знішчаць і раскідаюць па свеце самых дарагіх і блізкіх людзей. Яны яшчэ не ведаюць, што аднойчы пачнецца "Нашэсце", якое перакуліць усё светлае, што трымае іх на гэтай зямлі. Яны яшчэ займаюцца паўсядзённымі справамі, смяюцца і гаруюць. Яшчэ бесклапотна спіць у дамку з чырвонымі аканіцамі шаноўная Цыпке Кальтэ-Васэр, шчыруе няўрымслівая Гінта, спяшаецца некуды стары шавец, чуваць гучныя галасы фурманаў-балаголаў... Яны працягваюць нам руку з дабрынёй і спагадай без якіх, перакананы мастак, не можа быць ні майстра, ні чалавека.

**Марыя РУДОВІЧ**

# На крылах таленту і майстэрства



**Пад патранажам Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі з 1 па 11 лістапада ў Мінску адбыліся справаздачы маладых музыкантаў і мастакоў у рамках творчай школы "Таленты Беларусі".**

**3 лістапада а 18 гадзіне ў музеі Максіма Багдановіча ўрачыста адкрылася персанальная выстаўка стыпендыята фонду Паўла Пракапцова, студэнта 1 курса аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускай акадэміі мастацтваў.**

**Ва ўтульнай выставачнай зале "хаты Максіма" малады мастак прадставіў сваю творчую справаздачу ў галіне жывапісу і керамікі пад агульнай назвай "Мая Беларусь".**

**Экспазіцыя жывапісу складаецца з некалькіх нізак: "Мой горад Мінск" ("Мінск. "Траецкае прадмесце", "На ўскраіне Мінска"); "На радзіме майго дзеду" ("Буйнічы", "Паднiколле"); "Мая Беларусь" ("Спакой", "Абуджэнне", "Малінавы звон", "Адвечнае"). Некаторыя творы напісаны летась на Магілёўшчыне падчас Міжнароднага пленэру па жывапісе "Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве", прысвечаным 85-годдзю народнага мастака Беларусі Паўла Масленікава, дзе Павел Пракапцоў поруч з дарослымі мастакамі — удзельнікамі пленэру — плённа працаваў над цудоўнымі краявідамі малой Радзімы свайго дзеда.**

**Пра гэта праніклёна гаварыў падчас адкрыцця выстаўкі нязменны ўдзельнік пленэраў на Магілёўшчыне, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Леанід Дударанка.**

**Але не толькі пэндзлем добра валодае малады мастак — яго талент для многіх нечакана праявіўся і ў галіне керамікі. Сёлета падчас абароны дыплома ў Рэспубліканскім каледжы мастацтваў Павел уразіў усіх колькасцю і якасцю керамічных твораў, якія былі прадстаўлены і якіх, па словах дзяржаўнай камісіі, хапіла б на тры дыпломныя працы.**

**На выстаўцы раздзел керамікі прадстаўлены невялікай колькасцю работ, якія вельмі арганічна дапаўняюць яго жывапісныя творы і добра арганізуюць музейную прастору. Сярод іншых вылучаюцца дэкаратыўныя кампазіцыі "Фантан", "Ручайкі і кропелькі". Добрае валоданне матэрыялам, колерам і формай характэрнае і астатнім работам маладога аўтара — "Стыхія", "Усходні матыў", "Дэкаратыўная ваза", "Далучэнне".**

**Павел Пракапцоў на працягу апошніх гадоў прымае актыўны ўдзел у мастацкім жыцці, з'яўляецца ўдзельнікам пленэраў і выставак: творчай школы маладых талентаў у Паленаве-Тарусе (Расійская Федэрацыя, 1997); III Міжнароднага дзіцячага пленэру, прысвечанага М. і А. Рэрыхам (Рэспубліка Беларусь, 1997); Міжнароднага пленэру па жывапісе "Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве" (г.Магілёў, 1999). Як кераміст прадставіў свой твор на Міжнародны конкурс-выстаўку "Кераміка-2000" у Рэспубліцы Кітай.**

**На жаль, не ўсе жывапісныя і керамічныя працы маладога мастака змаглі змясціцца ў гэтай зале. Але тое, што прадстаўлена ў экспазіцыі, дае падставы гаварыць аб нараджэнні новага імя са сваім адметным светаўспрыманнем, пра што з прыемнасцю гаварылі дырэктар музея Мікола Трус, член фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка, загадчык кафедры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускай акадэміі мастацтваў Л. Церах, першая настаўніца маладога мастака З. Качаноўская.**

**Н. К.**

## "ЛіМ"-ФОТА

**Якуб Колас і Лідзія Арабей. 1945 г.**

*Ды ці ж варты*
*баламуты,*
*Каб твой твар дзявочы*
*Засціл аўся ценем смуты*
*І тускнелі вочы?*
**(З верша "Дзяўчына")**

*Фота*
Міхася ЛЫНЬКОВА



ПАМЯЦЬ

# "І не знікаць паэтам вечна..."

У першы дзень лістапада ў музычным вучылішчы імя Глінкі сумесна з Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы прайшла вечарына, прысвечаная 70-годдзю класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча. Як арганізатар і вядучая вечарыны, я палічыла сваім абавязкам запрасіць на сустрэчу родных Уладзіміра Сямёнавіча. Такім чынам паміж мною і сястрою пісьменніка ўсталявалася трывалая тэлефонная сувязь. Кожны раз Наталля Сямёнаўна пачалавечы шкадавала, што па стане здароўя не зможа браць удзел у мерапрыемстве, але паабяцала даць адзін з любімых ёю партрэтаў брата. На дзень, калі была прымеркавана наша сустрэча, мяне гасцінна прыняў швагра Уладзіміра Караткевіча, муж Наталлі Сямёнаўны, Іван Мікалаевіч Кучкоўскі, бо жонка была ў бальніцы. Гаспадар кватэры шчыра запрасіў мяне ў кабінет Уладзіміра Сямёнавіча. Я агледзела пакой, дзе ўсё захавалася так, як і было тут 16 гадоў таму. На сценах намаляваныя алеем партрэты К. Каліноўскага, некалькі — М. Багдановіча, краявіды роднай зямлі, шмат драўляных выяў, асабліва многа фігурак Швейка. У шафах, за шклом фотаздымкі сяброў: маладога чубатага Рыгора Барадуліна, сям'і Законнікавых з дарчым надпісам, фота, дзе Уладзімір Караткевіч, Фларыян Няўважны і Алесь Барскі, дарункі сям'і Вячаслава Рагойшы, кнігі Уладзіміра Арлова, работы мастакоў. На цэнтральным месцы шафы — партрэт пісьменніка: светлая, вельмі ветлая ўсмешка і ясныя, добрыя-добрыя вочы. Каля партрэта, у гліняным кубку — каласы родных палёў. Яны памятаюць гаспадара... З цікавасцю разглядаю фотаздымкі маці Надзеі Васільеўны, жонкі Валянціны Браніславаўны. На паліцах у шафе шмат дароў мора, розныя марскія зоркі, ракавінкі звычайныя і розныя, а яшчэ — макеты караблёў і парусніка. Падыходжу бліжэй і на фотаздымку чытаю: "Уважаемому Владимиру Семеновичу, Белорусу, на память от участника создания этого удивительного корабля. Бычков Анатолий. 15.03.83".

Гаспадар ветліва прапанаваў прысесці за рабочы стол Уладзіміра Сямёнавіча. Менавіта тут пісалася многае з гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Іван Мікалаевіч згадвае: "Я ўпершыню пазнаёміўся з Валодзем, калі яму было 16 гадоў. Ён прыехаў да нас з Оршы ў Балбасава, дзе я служыў ваенным лётчыкам. Бываў у нас часта. Вельмі многа чытаў, шмат расказваў пра лёс свайго народа. Мы міжволі пачыналі жыць жыццём герояў яго твораў. Ведаеце, ён быў звычайны і незвычайны, вясёлы і сарамлівы, быў яшчэ вельмі ранімы. Потым мяне перавялі ў Магілёў, дзе наш аэрадром быў на беразе прыгожага возера, якое называлася Святое. Кажуць, што зараз там вялікі жылы раён. У студзені 1950 года мы пераехалі ў Чэлябінск, на станцыю дысдакацыі Шагол. Ніколі не забудуся, як да нас праз усю Расію ехаў Валодзя і вёз з сабою поўныя два чамаданы кніг.Жыў цэлы год. Пісаў "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Было гэта ў красавіку 1965 года. Як ён казаў, збег з Мінска, каб добра папрацаваць". Іван Мікалаевіч бярэ ў рукі кнігу "Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у сусветным літаратурным аспекце", што выдаў Скарынаўскі цэнтр і якую яму перадаў Адам Мальдзіс. Разам мы разглядаем рэдкія фотаздымкі, малюнкі.

На маё пытанне, ці праўда, што маёмасць кабінета Уладзіміра Караткевіча будзе перавезена ў Оршу, Іван Мікалаевіч адназначна адказаў: "Калі музей будзе адчынены да 26 лістапада ў былым радзільным доме, дзе Валодзя з'явіўся на свет Божы, то, магчыма, адно яго крэсла мы перададзім у Оршу, накont усёй маёмасці кабінета размовы ніякай быць не можа".

Іван Мікалаевіч зноў вяртаецца да ўспамінаў: "Каб вы толькі ведалі, які Валодзя быў светлы чалавек. Пра гэта я магу вам расказваць бясконца. Але нагадаю адзін выпадак. Калі Караткевічы жылі па вуліцы В. Харужай, недалёка ад іх быў базарчык, дзе прадавалася розная жыўнасць. Дык Валодзя хадзіў туды, купляў галубоў і... выпускаў іх на волю... Сам быў чалавек вольны, гаварыў усё, што думаў, умеў сябраваць, шчыры быў вельмі..." У гэтай кватэры Валодзя пражыў 13 гадоў. Яго маці Надзея Васільеўна і жонка Валянціна Браніславаўна стварылі яму добрыя ўмовы для працы". Іван Мікалаевіч дастае з паліцы студэнцкі альбом Уладзіміра Сямёнавіча і падае мне. Я адгарнула цвёрдую вокладку і на першай старонцы ўбачыла словы малітвы, якія аздоблены добрай вартасці малюнкамі. Паміж лістамі з вершамі знаходжу выпіску з пратакола аб прыёме Караткевіча ў аспірантуру ў Кіеве. Але не прынялі, бо лічылі па тым часе яго беларускім нацыяналістам...

Іван Мікалаевіч працягвае: "Калі Валодзя адпачываў з жонкай і маці ў Піцундзе, то хадзіў з рыбакамі ў мора. Прывёзшы шмат рыбы, спяваў свае песні. Каб вы ведалі, як хораша Валодзя спяваў па старацаркоўных кнігах. Спяваў раздольна, так, як гэта мог рабіць толькі ён".

Прайшла вечарына ў гонар Уладзіміра Караткевіча на добрым узроўні. Пісьменнікі Міхась Тычына і Анатоль Верабей нагадалі прысутным старонкі жыцця і дзейнасці Уладзіміра Сямёнавіча. Студэнты чыталі вершы. Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў пазнаёміў прысутных з урыўкамі з "Сівой легенды". Слова пра юбіляра сказалі супрацоўніца часопіса "Роднае слова" Лідзія Хамінская і намеснік дырэктара вучылішча імя Глінкі Зоя Кудрацава.

Пакідаючы гасцінную кватэру, дзе жыў і працаваў Уладзімір Караткевіч, я міжволі падумала: як бы было добра, каб тут быў музей паэта. Ён варты гэтага. Гэта трэба беларусам.

Лістападаўскія дні крочаць па роднай зямлі, лістапад — месяц Уладзіміра Караткевіча. І на памяць успłываюць радкі:

*Але вечна тваім застаецца*
*Толькі тое, што ты аддаў.*

**Людміла ДАВІДОЎСКАЯ**

## "Маладосць", N 9

Змешчаны вершы А. Бандаровіч, Т. Лапцёнак, І. Лагвіновіча, А. Дэбіша, Х. Гурыновіча, С. Панізніка. Проза прадстаўлена апавяданнямі "Дачушка" М. Кулеша, "Чортаў палец" Л. Арабей, "У ружовым тумане" І. Фурсевіча, "Сталічная" сярэдзіны сямідзесятых, або Настальгія па маладосці" У. Мароза, закончэнем сямейнай хронікі У. Глушакова "Чарнобыльскі шлях, або Развітанне на пачатку вясны". У публіцыстычным раздзеле прапануюцца матэрыялы: "Ой, бацька мой, Нёман!" А. Міцкевіча, "Жыццёвае" З. Марозава, "Там, дзе Бяроза і Бобр..." А. Вараб'ёва. А. Мімрык ("Просты і душэўны") успамінае пра А. Пальчэўскага. Л. Пранчак ("Дзе моляцца сонцу разоры...") знаёміць з паэтам А. Бярозкам. Мастацкая прырода народна-быційнага ў паэзіі Р. Барадуліна — тэма артыкула А. Астраух "Каб хатнім стаў неспасцiжымы свет". А. Карлюкевіч ("...Робіцца ўся Беларусь караткевічаўскім музеем") рэцэнзуе кнігу Л. Радомскай "Уладзімір Караткевіч і Орша". А. Марціновіч ("Прачас, калі малолі косці") дзеліцца ўражаннямі ад даследчыцкай працы Л. Маракова "Вынішчэнне". В. Дударэнка прадстаўляе мастака Г. Козела ("Момант унутранай прасторы"). На завяршэнне нумара — гумарэскі В. Дайліды "Хітры кнырык" і "Чортаў тузін".

## "Беларуская думка", N 10

У раздзеле "Літаратура і жыццё" прапануюцца працяг рамана І. Шамякіна "Губернатар" і вершы А. Шушко. У сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння А. Макаёнка змешчаны развагі А. Марціновіча "З Макаёнкам Андрэем душа дабрэе". Чым жыве сёння Старадарожчына, якія набыткі яе ў галіне культуры, адраджэння даўніх промыслаў — пра гэта матэрыял А. Марціновіча "Новыя разлогі і Старыя Дарогі". А вось у Лунінецкім раёне справы не ладзяцца, пра што і расказвае М. Панасюк ("Патушылі свята маякоў. Няўжо патушаць і свечкі?"). Член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар фізіка-матэматычных навук В. Грыбкоўскі (на жаль, нядаўна памёр) разважае, калі ў славян узнікла пісьменнасць ("А ці першыя Кірыла і Мяфодзій?"), А. Ненадавец ("Адкуль цячэ сіні Дунай...") асэнсоўвае традыцыі фальклору. А адкрывае нумар словам галоўнага рэдактара "БД" У. Вялічкі "Традыцыі народаўладдзя".

*О, не пакідай мяне, смех:*
*Ты нам дорыш светлае шчасце,*
*Звініш, як узветраны снег,*
*Бароніш ад суму-напасці...*

*О, не пакідай мяне смех,*
*Ніколі, ні ў раі, ні ў пекле.*
**Максім ТАНК**

•

Люба Ахрэмава Малашчанка з Малых Аўцюкоў у свае семдзесят сем прытэпала на фестывальную паляну. Зірнула наўкол, сказала:
— Оё-ёй, людзей, што караладскіх жукоў...
Працерла хустачкай вочы, прызналася:
— Я, каласок, у етым лесе ў вайну два месяцы сядзела. Хаваліся ад немцаў. Бацькоў не было, дак я брацікаў і сясцёр глядзела, што нясушка. А сваёй сям'і не звіла...
— Раскажыце, што-небудзь вясёлае...
— Родненькі начальнік, у мяне ўсе жарты пячальныя...

каў спадніцамі лавілі. Шчупак зазірнуў пад спадніцу, дак і яго падлавілі, засмажылі. Яйкі гарачым уцюжком адпрасавалі, атрымалася яечня па-аўцюкоўску. Частуйцеся, ды бярыце на розум, як трэба гасцей прывязваць...

•

Аўцюк працаваў у горадзе, у ТэБэ, у аддзеле тэхнікі бяспекі. Пайшоў на пенсію, жыве ў вёсцы. Сустрэлі саслужыўцы, дапытваюць:
— Як жывеш, Іван?
— Як? Працаваў у ТэБэ, цяпер — у ТыБы.
— Што гэта за работа?
— Кожную раніцу жонка просіць: "Ты бы, Іван, схадзіў у магазін... Ты бы, карове ўкінуў... Ты бы дроў накалоў..."

•

У санаторый "Радон" прыбыла аўцючка. Тут жа да яе прычапіўся кавалер. У першы вечар крануў яе пальчык, у другі — узяўся за локаць, у трэці — дачыркнуўся да пляча. Аўцючка не

— Давайце, хлопцы, вып'ем за Пятра. Добры быў чалавек.
Выпілі. Закусілі. Глядзяць, плыве Пятрова шапка супраць цячэння.
— Давайце, каласкі, памянём Пятра...
Раптам вылазіць Пятро з вады, ацверазіў аўцюкоў:
— Чаго раты паразяўлялі?
— Мы думалі ты... таго...
— Хлопцы, паводка паводкай, а араць трэба... Налівайце!..

•

Дзед з бабай сядзяць за ядовым сталом. Моўчкі абедаюць. Толькі ходзікі цікаюць. Нечакана дзед, вылупіўся, як жаба на купіну. Аблізаў лыжку з абодвух бакоў ды як лясне ёй бабе ў лоб:
— Не цямкай!
Праз нейкі час зноў аблізаў лыжку, зноў карае сваю бабу.
— А цяпер за што? — гневаецца старая.
— Успомніў, як ты цямкала...

Уладзімір ЛІПСКІ

— Чаму?
— Са сваім вечарам не памірылася...

•

Сямёніха з Вялікіх Аўцюкоў прызнаецца:
— Выхавана маміным кулаком. Іду з дому ў клуб, падыме кулак угору, скажа адно слова: "Глядзі!" Еду куды, зноў кулак пакажа: "Глядзі!" Цалуюся з хлопцам і мамін кулак бачу перад сабой...

•

Аўцюкоўскі дзед Ігнась:
— Люблю мяккіх баб, поўных. На дошках яшчэ наляжуся...
Настуся пра свайго Ігнася:
— Трэба яго здаць у арэнду, батон сабе купіць...

•

Два аўцюкі размаўляюць пасля бальніцы:
— Табе што доктар прыпісаў?
— Сала нельга есці. Селядца нельга. Курыць трэба кідаць. Піць — ні божа мой...
— А мне ўсё дазволіў.
— Як жа, у нас роўныя хваробы?
— А я даў доктару шмалец сала, слоік мёду. Дак ён і сказаў: "Табе, каласок, усё можна, усё дазваляецца..."

•

Аўцюк у магазіне:
— Прадайце мне вунь той гармонік.
— Аўцюкам не прадаем.
— Адкуль ты ведаеш, што я з Аўцюкоў.
— Тое, каласок, што ты хочаш купіць, не гармонік, а батарэя.

•

— Хто такі дурны?
— У каго крызіс памяці.
— Ды не, у нашых Аўцюках дурань той, каго пашлеш па паўлітру, дак ён адну і прынясе...

•

Аўцюк вярнуўся з Украіны. Быў у гасцях. Пытаюцца:
— Як там людзі?
— А-а, толькі сышоў з цягніка, дак хацелі ў морду даць.
— Адкуль ведаеш, што хацелі.
— Каб не хацелі, то не далі б...

# За канавай, пад дубамі...

## ЖАРТЫ З АЎЦЮКОЎСКАЙ МЫТНІ

На аўцюкоўскай мытні баба Люба ўсё-такі "раскалолася":
— Пазнаёміліся ў нашых Аўцюках хлопец з дзяўчынай. Ён — маўчун ад прыроды. От ідуць яны, дзяўчына кажа: "Васілька, якое неба высокае". Мармыча: "Ага". — "Васіль, якая прырода наўкол прыгожая". — "Ага". — "Васіль, вунь лебедзь па нашым возеры плыве". — "Ага, плыве". — "Васілёк, ты б хацеў лебедзем быць?" — "Яшчэ чаго? Я не дурны, каб сраку мачыць..."
Калі ўсе мы добра адсмяяліся з бабінага жарту, яна патлумачыла:
— От, каласок, і мне ў жыцці трапляліся такія, што баяліся цецкіх турбот. Аднай й прагаравала ўсё жыццё...
Любоў Ахрэмаўну мытнікі прапусцілі за канаву, пад дубы, дзе распачынаўся фестываль.

•

Конюх па клічцы Буржуй, у капелюшы з кветкай, у вышыванай кашулі, катаў гасцей фестывалю на кані. Яго жарт:
— Сусед будзіць суседа: "Іван, самагонны апарат, бульбулятар твой укралі". Іван высоўвае сонную галаву ў вакно: "Нічога страшнага. Ключы ад пуні ў мяне..."

•

— Мікола, пазыч грошай. Заўтра аддам.
— А дзе ты ўчора быў, як я ўсім пазычаў.

•

— Дунька, твайго Пятра на фестывалі трыперам узнагародзілі.
— Чым, чым?.. Можа, транзістарам?..
— Дакладна не ведаю.
— А-а, — махае рукой Дунька. — Радасці мала.
— Чаму?
— Усё роўна мой дурань дадому не прынясе. Ці прап'е, ці згубіць...

•

Баба Буцэнка, у якой восем унукаў і два праўнукі:
— У нас, у Вялікіх Аўцюках, нядаўна так было. Жонка загадала мужу звадзіць карову на асемяненне. Вылавіў Максім карову ў статку, звадзіў куды трэба, паставіў у хлеў. А вечарам прыходзіць тавар з поля, ідзе ў іх двор іхняя карова. А божа ж мой, агледзеліся, Максім асемяніў карову Івана Смятанніка. Перабілтаў, бо абедзве рабыя. Во, каласок, жывы анекдот. Ледзь да бойкі не дайшло. Цяпер беднаму Максіму праходу не даюць: "Раскажы, каласок, як ты чужой карове казу задзелаў..."

•

На базары ў Калінкавічах гарадская гандлярка дзярэ горла:
— Купляйце спіртометры. Купляйце!
Аўцючка прыпынілася, агледзела апарат дый кажа:
— Калінка, у мяне дома жывы спіртометр — мой муж.

•

Бабы з Малых Аўцюкоў завіталі на мытню са сваімі пачосткамі:
— Блін на блін, паміж імі круглячок каўбасы, пальцамі натыканы, — гэта аўцюкоўскі бутэрброд, гамбург. Карпі-

вытрымала такога шляхецтва, намякнула залётніку:
— Ты што, думаеш, я сюды на два гады прыехала?..

•

— Сямён, пайшлі на рыбалку.
— Сёння не пайду. Мне жонка дома наліла...

•

— Доктар-каласок, палячы.
— Што здарылася?
— За маладымі дзеўкамі бегаю.
— Дык гэта ж добра, аўцюк.
— Ага, добра. Але я не ведаю, чаго за імі ганяюся.

•

Допыт мудрага, юнага аўцюка:
— Чаму буслы ляцяць на поўдзень?
— Там людзі таксама хочуць дзяцей.
— Хто такі палюбоўнік?
— Гэта такі добры дзядзька, які дапамагае тату?
— Хто такая палюбоўніца?
— Гэта такая цётка-зладзейка, якая бярэ ўсё, што стаіць...

•

П'юць аўцюкі каля рэчкі Закаванкі. Плыве па цячэнні шапка Пятра. Адзін прапануе:

•

П'яны аўцюк праспаўся. Ляжыць на палку каля печы. Галава расколваецца. Ды раптам як запусціць ботам у ката:
— Брысь, гад, не тупай на ўсю хату!..
У гэты час заходзіць сусед з паўлітэркай:
— Іван, давай вып'ем.
— Неахвота.
— І мне неахвота. Але няма чаго рабіць?
— Ну тадыналі капку ў ляпку...
Выпівохі тлумачаць:
— Мы не п'ём, а падтрымліваем эканоміку дзяржавы.

•

Аўцючка суседцы:
— Свайму кажу: "Чаго ляжыш на печы? Пайшоў бы ў поле". — "Пайшоў бы, адказвае, дак зямля сырая".
— Як іх толькі зямля носіць?

•

— Арцём, чаму сумны?
— Цешчу пахаваў. Два баяны парвалі...

•

— Я сёння, Волька, усю ноч не спала.
— Муж не даваў?
— Ды не — камар.
— А ў мяне, Надзька, таксама ноч прапала.



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

•

— Аксіння, у вашай краме каляровыя тэлевізары ёсць?
— Ёсць!
— Пакінь мне зялёны.
Пра такую ў Аўцюках кажуць: "У яе ёсць не толькі галава, а і мазгі ў ёй".

•

Аўцючка раніцай пазірае ў люстэрка. Бачыць сябе: валасы раскудлачаныя, твар памяты, вочы заспаныя. Сама сабе кажа:
— Так яму, нахабніку, і трэба...

•

Аўцюк праводзіць жонку ў Гомель. Выйшлі на шашу. Злавіў папутку. Наставіў на шафёра паляўнічае ружжо, загадвае:
— Вылазь!.. Бягом вакол машыны!..
Паганяў беднага, паганяў, напужаў, а тады жонцы кажа:
— Садзіся, Алена, цяпер ён цябе да Гомеля не зачэпіць...
Пра такога аўцюка ходзіць прымаўка: "Ён з двух брускоў мыла іскру высеча".

•

Нараўне з жартамі, анекдотамі, прымаўкамі на аўцюкоўскай мытні гучалі прыпеўкі. Найчасцей свежанькія, быццам во тут, ля бярозавага мосціка, складзеныя. Іх любяць аўцюкі і аўцючкі, нават аўцючаняткі:

***Мама ў хаце — камандзір,***
***Тата — правая рука.***
***Бабка ў дзеда брыгадзір,***
***Я без должнасці пака.***

***Палюбіла старшыню,***
***Думала багаты.***
***Прыхаджу к яму дамой,***
***Ён — у трусах парватых.***

***Прэзідэнт, наш прэзідэнт —***
***Прыгожая рубашка.***
***Дзе мне такую ўзяць***
***Для свайго мілашкі?***

***Села я на курыцу,***
***Паехала на вуліцу.***
***А мужыкі не спазналі —***
***Шапкі паздымалі.***

***Я не знаю, што рабіць,***
***Як далей мне жыць?***
***Толькі Ліпскага пабачу,***
***У мяне ў грудзях свярбіць.***

•

Пасля фестывалю ў Аўцюках — трое на пероне Калінкавіцкага вакзала. Бягуць за адыходзячым цягнікам. Двое паспяваюць ускочыць у апошні вагон. Трэці з кампаніі, што застаўся на пероне, рагоча, за бакі бярэцца. Пасажыры цікавяцца:
— Што з вамі?
— Тыя двое, што паехалі, яны ж мяне праводзілі...

ПРЭМ'ЕРЫ

# Кактэйль з кахання, сексу і Інтэрнэта

***Афішы з прэм'ернаю назваю "Дотык" абяцалі калі не скандал, дык нешта смажанае. Грыф "толькі для дарослых" чытаўся, як выклік цнатлівасці беларускага тэатра. Не паглядзець, на што ж адважыўся Мікалай Пінігін у сваім "кактэйлі з кахання, сексу і Інтэрнэта" было немагчыма.***

Бадай, ніводнага "рабочага візіту" ў Мінску не чакаюць так, як візіту ў мінулым беларускага, а цяпер — піцерскага рэжысёра Мікалая Пінігіна і яго адзінадумцы, сцэнографа Зіновія Марголіна. Больш-менш дасведчаны ў тэатральным жыцці сталіцы глядач жыве ў прадчуванні асалоды ад новага, яскравага, вясёлага і стыльнага шоу. Крытыкі ж чакаюць новай пастаноўкі з некаторай бояззю: у пінігінскіх спектаклях сам чорт нагу зломіць. Гэта дзіўная сумесь інтэлектуальнай драмы, балагану, эстрады, моды "ад куцюр", акцёрскай гульні вышэйшай пробы, а цяпер яшчэ і Інтэрнэт. У гэтых спектаклях спакойна ўжываюцца высокае мастацтва і тонкі камерцыйны разлік. Вось і паспрабуй разабрацца, што з іх пераважае — у культавым "ARTe" Я. Рэза (1998 г.), у эклектычных "Ботах на тоўстай падэшве" П. Гладзіліна (1999 г.), сентыментальна-музычнай "Беднай Лізе" М. Карамзіна (1999 г.), у "любоўным трылеры 90-х" — "Дотыку".

Менавіта так газета "Івнінг Стэндарт" тытулавала гэту п'есу рэжысёра, акцёра і папулярнага англійскага драматурга Патрыка Марбэра. Не спяшайцеся вінаваціць сябе ў тым, што не чытаеце "Івнінг Стэндарт", што не можаце прыгадаць імя драматурга па школьнай праграме і, увогуле, уже даўно не наведвалі Брытанскі Каралеўскі тэатр. Марбэр — наш сучаснік, а "Дотык" ( які сярод іншых узнагарод атрымаў прэмію Лоўрэнса Алів'е за лепшую новую п'есу) упершыню быў пастаўлены ў вышэйзгаданым тэатры усяго тры гады таму. У 1999-м прэм'ера п'есы ў аўтарскай пастаноўцы адбылася на Брадвеі. І вось, усяго праз год, "Дотык" — у Мінску, на сцэне ДК імя Дзяржынскага.

Гэтым антрэпрызным спектаклем у другі раз заявіў пра сябе тэатральны праект любімага многімі "Альфа Радыё". З першага яго стварэння — "Ботаў на тоўстай падэшве" — у другое перакачавалі пастановачная група, акцёр (і па сумяшчальніцтве — загадчык мастацкага аддзела "Альфа Радыё") Сяргей Журавель і бяспройгрышная тэма — тэма кахання і сексу. Толькі ў "Дотыку" Пінігін ужо не наладжвае цыркавых прадстаўленняў з клоунамі для абмеркавання гэтай сферы чалавечага жыцця. Да д'ябла далікатнасць з яе эўфемізмамі! У спектаклі для дарослых магчыма і патрэбна размаўляць шчыра. Тым больш што драматург прапанаваў для гэтага дасціпны, палкі і сучасны матэрыял.

Пра што ён? Пра нас з вамі, калі вы самі кахалі і здраджвалі калі-небудзь. Пра тое, што як ні імкнёмся мы пабудаваць свой утульны і стабільны сусвет, схавацца ў замкнёную ад наваколля сферу, жыццё ўсё роўна сутыкае нас з іншымі людзьмі. Мы перад імі безабаронныя. Безабаронныя і перад іх нянавісцю, і, што яшчэ горш, перад іх каханнем.

Патрык Марбэр у нечым падобны на сваю гераіню Анну, якая непрыкметна фатаграфуе незнаёмых людзей у той момант, калі яны застаюцца самі з сабой, здымаючы маску са сваёй тугі і адзіноты. І фатограф, і драматург шукаюць у чалавеку самае важнае. Але што — розум, прыгажосць, дабрыню? А, можа, тое, што менавіта гэты чалавек менавіта зараз знаходзіцца побач (гэтая думка праходзіць рэфрэнам праз увесь спектакль)?

Пісаць пра гэты спектакль складана. Хоць ён і аформлены ў чорна-белых танах, але ў эмацыянальным і маральным плане "Дотык" багаты на ўсемагчымыя цені і адценні. Яго трэба пабачыць на свае вочы і, магчыма, не адзін раз. Яго трэба адчуць, прымераць на сябе. Вось гэта ўжо зусім не цяжка: сюжэтныя калізіі самі далікатна прывабліваюць вашую душу і самі настрояць яе на патрэбны лад. Толькі адна перасцярога: гэты віртуальны сусвет зацягвае не горш за камп'ютэрныя сімулятары. Звон ад разбітага сэрца кагосьці з герояў можа вельмі балюча адгукнуцца ў вашым уласным.

"Дотык" даследуе няпростыя ўзаемаадносіны дзвюх вельмі розных жанчын і двух не менш розных мужчын, якія ўвесь час мяняюцца паміж сабой сексуальнымі партнёрамі, здраджваюць, ілгуць, філасофствуюць, помсцяць і пакутуюць. Яны ўпарта шукаюць шчасця, але кожны з іх знаходзіць прычыну, каб не быць шчаслівым. Вытанчаны пісьменнік Дэн, які разрываецца паміж больш сталай Аннай і зусім маладзенькай Эліс, шчасця не здабудзе, пакуль не навучыцца кахаць яшчэ каго-небудзь, акрамя сябе. У Эліс адваротная праблема: яна мусіць закахацца ў першага сустрэчнага (прычым матывіроўка выбару самая парадаксальная — ён зразае скарынкі з бутэрбродаў, як рабіла калісьці яе маці), але набытыя ў дзяцінстве комплексы не дазваляюць дзяўчыне палюбіць саму сябе. Анна мае залішне абвостранае пачуццё жаласці і адказнасці за бліжняга, каб пабудаваць сваё шчасце на няшчасці іншых. Толькі ўрач Ларры, які абедзвюма нагамі стаіць на зямлі, аказаўся здольны зноў знайсці раўнавагу, ачуняць ад кахання. Але шчасця на ягоным твары таксама не відаць...

Героі Патрыка Марбэра страшэнна адзінокія. Яны мітусяцца ў пошуку чалавечай цеплыні, але самі сагрэць нікога не ў стане. Гэтую адзіноту акцэнтуе і Мікалай Пінігін. Ён адначасова выводзіць на сцэну Дэна і Ларры, Анну і Эліс, якія былі ў адным і тым жа парку, сядзелі за адным і тым жа сталом, але — у розны час. Здаецца, яны зусім побач, але дакрануцца, убачыць адзін аднаго яны не могуць. Уражанне разамкнёнасці часавай прасторы пры адзінстве месца падтрымліваецца і сцэнаграфія Зіновія Марголіна, які прыдумаў складаную канструкцыю з рухомымі белымі ветразямі. У "Дотыку" тэатр пераймае ад кіно і камп'ютэра мантажныя прыёмы. Сцэнічнае дзеянне ператвараецца ў стужку — адны кадры мы бачым, а іншыя зніклі пры мантажы. Дарэчы, цікавасць выклікае яшчэ адна рэжысёрская знаходка — Пінігін уводзіць у тканіну спектакля відэа і Інтэрнэт, якія становяцца не проста данінай модзе, а арганічнай яго часткай. Сапраўды, п'еса сучасная і пра сучасных людзей — чаму б не дазволіць героям "пакуляцца ў віртуальнай прасторы"? Гэтага яшчэ ніхто на беларускай сцэне не рабіў і не бачыў, як не бачыў і такога прыгожага эратычнага танца. (Стрыптызам называць выступленне пластычнай, трапяткой Алесі Самахавец не хочацца. Тым больш, што агаляецца ў спектаклі не цела, а душа).

Акрамя Алесі Самахавец (студэнткі другога курса БАМа, для якой роля Эліс — першая), у спектаклі іграюць актрыса Рускага тэатра Аксана Лясная (Анна) ды колішнія партнёры па "ARTe" Ігар Забара (Дэн) і Сяргей Журавель (Ларры). Акцёры п'есу адолелі — у іх няма і следу заціснутасці, яны шчырыя і абаяльныя, яны прываблліваюць і адштурхоўваюць. Бачна, як ад спектакля да спектакля акцёры набіраюць рытм, настройваюцца адзін на аднаго, дапрацоўваюць тое, на што падчас рэпетыцый папросту не хапіла часу.

"Дотык" — спектакль вытанчаны, шчымлівы, да болю жыццёвы. Пачынаючы з зямных страсцей, ён прыходзіць да лірыкі і святла ў канцы, калі згінула шалупінне крыўд, спраўдзілася саламонава "ўсё мінае". Амаль паводле Булгакава: не шчасце, але спакой. Вышэйшая ўзнагарода з усіх магчымых.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**Заўтра ў Оперным тэатры адбудзецца прэм'ера пастаноўкі "Барыс Гадуноў". Рэжысёр — Мікалай Пінігін. У тэатральных колах кажуць, што гэта стане самай значнай тэатральнай падзеяй сезона.**

**ВЫСТАВЫ**

**Нацыянальны мастацкі музей**

*Да 6 снежня* — Беларускі фонд культуры разам з прадпрыемствам "Мінскрэстаўрацыя" прадстаўляюць калекцыю адноўленых абразоў 17—18 стагоддзяў. Выстава прысвячаецца 30-годдзю творчай дзейнасці вядомых рэстаўратараў Пятра Журбея і Аркадзя Шпунта.

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва**

*Да 19 лістапада* — выстава твораў Яўгена Харытоненкі (1920—1998).

*Да 24 лістапада*— працуе выстава гродзенскіх скульптара Уладзіміра Панцялеева і графіка Валянціны Шобы.

**Мастацкая галерэя "LaSandr"**

*З 1 па 22 лістапада* — «Пакуль на Беларусі расце трава», выстава жывапісу Уладзіміра Рынкевіча.

**Музей гісторыі беларускай літаратуры**

Тут працуе выстава беларускага шкла. Усяго каля 500 экспанатаў больш як з дзесяці беларускіх музеяў — пацеркі, келіхі, пляшкі. Вырабы са сваіх калекцый прадставілі таксама шклозавод "Нёман" і Барысаўскі крышталёвы завод. Узрост вырабаў — ад X стагоддзя па бягучы год. Усё мастацкае шкло — так званае гутнае. Вырабляецца яно ўручную: адмысловыя формы выдзімаюцца з расплаўленай масы. Экспазіцыя — на другім паверсе музея. А на першым працуе выстава нямецкага фотамастака Ахіма Вёльфінга пад назваю "Мінск. Горад і людзі". На ягоных здымках — і Батанічны сад, і твары прадаўцоў і пакупнікоў Камароўкі, і мінская архітэктура ад Траецкага прадмесця да будынка цырка.

**КАНЦЭРТЫ**

*З 19 па 26 лістапада* — Н.Р.М. ладзіць гастрольны тур па Беларусі са сваім новым альбомам «Тры чарапахі». Штодня па чарзе — у Слуцку, Бабруйску, Віцебску, Наваполацку, Лідзе, Гродне, Слоніме, Брэсце

*30 лістапада* — у к/з «Мінск» выступіць «Нейра Дзюбель».

ПАРОДЫІ

Уладзімір МАРУК

## *Віж*

Здаецца — быццам<br>за спіной<br>Рыпяць чыесьці<br>чаравікі<br>І пільна сочыць хтось<br>за мной.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ**

Я хаджу, як цень...

**В. ШНІП**

***Зноў кожны вечар хтось<br>за мной<br>У цемры сочыць, даганяе,<br>Дыханне чую за спіной,<br>Зірнуць — адвагі не хапае.***

***Ці то пугач, ці то прарок,<br>Ці то язычнік зухаваты,<br>О Божа свенты, назнарок<br>Мяне праводзіць<br>аж да хаты.***

***Дакуль жа мне трываць<br>той страх?!<br>Вазьму ды заўтра ж<br>азірнуся.<br>О каб ён спух,<br>а каб ён спрах,<br>Той, на каго я так злуюся.***

***Назаўтра гэтак бы<br>няўзнак<br>Цікую, хто за мной<br>шыбуе...<br>Здалося —<br>гэта ваўкалак...<br>Зірнула лепей —<br>... Шніп віжуе.***

## *Не хадзіце ў лазню*

— Гэта ўсё<br>дабром не можа<br>скончыцца —<br>Не хадзіце<br>ў відэасалон!

**У. СКАРЫНКІН**

***Мне казала Маня,<br>наша ўчотчыца:<br>"Дык прыходзь,<br>Уладзя, на парок..."<br>Я разок схадзіў —<br>і больш не хочацца,<br>Не, не буду —<br>даў сабе зарок.***

***Бо не ўсё сказала<br>Маня-ўчотчыца...<br>Гэта ж столькі<br>голых бачыў я.<br>А калі з палка<br>хто здуру скоціцца —<br>Што рабіцьме<br>без мяне сям'я?***

***Больш туды не кліча<br>Маня-ўчотчыца,<br>Хоць і падбіваў<br>яе парторг...<br>Гэта ўсё дабром<br>не можа скончыцца —<br>Не хадзіце ў лазню,<br>крый вас Бог!***



## У Доме літаратара

Саюз беларускіх пісьменнікаў запрашае 21 лістапада на вечарыну-прысвячэнне 75-годдзю з дня выхаду ў свет паэмы "Сымон-музыка".

Вялікая зала Дома літаратара.

**Пачатак а 18-ай гадзіне.**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**

**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**

**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**

**літаратурнага жыцця — 284-8462**

**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**

**паэзіі і прозы — 284-8204**

**музыкі — 284-8153**

**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**

**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**

**навін — 284-8462**

**мастацкага афармлення — 284-8204**

**фотакарэспандэнт — 284-8462**

**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856

Наклад 2812

Нумар падпісаны ў друк 16.11.2000 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 6067

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12